# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1973
Ліпень-
Жнівень-
Верасень
Год XXI
№ 3 (137)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1973 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

Year XXI July—August—September № 3 (137)
1973

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XXI | ЛІПЕНЬ—ЖНІВЕНЬ—ВЕРАСЕНЬ | № 3 (137)

*а. Т. Падзява*

# Добрая навіна

IV-ая КАТЭХЭЗА

ХРЫСТОС, «ЯКІ МАЕ ПРЫЙСЬЦІ»
(Мат. 11, 3)

## БОГ НАШЫХ БАЦЬКОЎ

*«Праз цябе народы ўсяе зямлі будуць атрымліваць багаславенства».*

(Кніга Быцьця, 12, 3)

БОГ КЛІЧА АБРАГАМА: «Выйдзі з тваей зямлі дый з дому бацькі твайго і ідзі ў край, які Я табе пакажу. Бо Я зраблю з цябе вялікі народ, буду табе багаславіць і зраблю тваё імя славутым: ты станешся багаславенствам... Праз цябе ўсе народы будуць атрымліваць багаславенства». (Кніга Быцьця, 12, 3).

Каля 2.000 гадоў перад Нараджэньнем Хрыста ў краі над рэкамі Тыграм і Эўфратам у месьце Ур жыў чалавек, якога звалі АБРАМ. Бог заклікаў яго, каб праводзіць свой плян выратаваньня людзей. Таму Бог загадаў Абраму пакінуць родны край і адправіцца ў далёкую краіну Канаан. Прытым Бог абяцаў даць яму багаславенства і вялікую нагароду. Ён сказаў, што размножыць Абрама патомства як зоркі на небе, так што ён ужо ня будзе звацца Абрам, але «Абрагам», што значыць, «айцец народаў», бо праз яго народы ўсяе зямлі будуць атрымліваць багаславенства. Калі Абрагам знайшоўся ў зямлі Канаан, Бог сказаў яму: «Твайму патомству аддаю вось гэты край». Абрагам паверыў Богу. Дагавор Абрагама з Богам Сьвятое Пісаньне называе ЗАПАВЕТАМ.

Бог споўніў тое абяцаньне і Абрагам дачакаўся сына, якога патомкі разрасьліся ў жыдоўскі народ. Бог апякаваўся гэтым народам і гэты народ існуе ўжо блізка 4 тысячы гадоў. Калі жыды былі ў цяжкім палажэньні, Бог памагаў ім, напрёклад, у няволі ў Эгіпце. Таксама ў падарожжы ў Абяцаную Зямлю і калі жылі ў ёй.

*

ЗАКІД: Калі Бог абяцаў жыдам зямлю Канаан, чаму сяньня жыды не маюць усяе гэтае зямлі, бо Канаан — гэ́та цяперашняя Палестына?

АДКАЗ: Далей мы ўбачым, што Бог зрабіў Абрагама бацькам ня толькі аднаго жыдоўскага народу, які выводзіцца ад Абрагама паводле цела, але і ўсіх народаў, якія праз веру ў Божыя прырачэньні, дадзеныя Абрагаму, стануцца Божым народам. Божыя прырачэньні адносяцца да ХРЫСТА, якому Бог Айцец аддаў ня толькі Палестыну, але і ўсе народы ўсяе зямлі, як аб гэтым Бог кажа праз прарока ў другім псальме (7-9): «Госпад сказаў да мяне: — Ты Мой Сын, сягодня Я спарадзіў Цябе і дам Табе народы зямлі ў спадчыну і межы зямныя ў валаданьне Табе. — І далей прарок кажа: «Дык памятайце, цары, зразумейце перасьцярогу, судзьдзі зямныя. Служыце Богу са страхам і радуйцеся з дрыжаньнем. Слаўце Сына, каб не разгневаўся, ды каб вы ня згінулі на дарозе сваей, бо неўзабаве ўзгарыцца гнеў ягоны».

Хрыстовая Царква ёсьць духовым патомствам Абрагама і мае сваіх пасьлядоўнікаў сярод усіх народаў усяго сьвету. Гэтак усе народы належаць да Хрыста і служаць Яму.

Жыдоўскі народ, які паходзіў ад Абрагама паводле цела, стаўся парукай у Божых руках. Жыды захавалі сапраўдную веру ў Бога. З гэтага народу выйшаў Выратавальнік сьвету. Таму кнігі Новага Запавету часта ўспамінаюць Абрагама. Гэтак пачынаецца радавод Хрыста ад Абрагама (Мат. 1, 1). Божая Маці Марыя дзякуе Богу за тое, што выпаўніў прырачэньне Абрагаму (Лука 1, 54-55).

Сьвяты Павал называе Хрыста патомкам Абрагама (Гал. 3, 16).

Толькі ў Ісусе Хрысьце Бог споўніў усё тое, што абяцаў Абрагаму.

*

НАШ АДКАЗ БОГУ: Праз сьвяты хрост я прыймаю ўдзел у абяцаньні, што Бог даў Абрагаму. Пастараюся даведацца больш аб гэтым абяцаньні ад Царквы, калі буду вучыцца катахізму.

Вось важнейшыя МАЛІТВЫ, у якіх ёсьць мова аб Абрагаме:

«Вялічай, душа мая, Госпада, бо . . . прыняў Ён Ізраіля, свайго слугу, успомніўшы міласьць, як гаварыў да нашых айцоў, да Абрагама і ягонага патомства да веку». (Лука 1, 46-55).

СТАРЫ ЗАПАВЕТ: «Пачуў Бог іхняе кліканьне, бо помніў аб сваім саюзе з Абрагамам» (Вых. 2, 24).

«Глядзіце, даю вам гэты край. Ідзіце і займіце зямлю, якую Ягвэ пад прысягай абяцаў даць Абрагаму . . . а пасьля яго ягонаму патомству». (Дэўт. 1, 8). «Толькі Госпад ёсьць вашым Богам . . . Ён помніць навекі аб сваім Запавеце, аб прырачэньні дадзеным на тысячу пакаленьняў, аб угаворы, які зрабіў з Абрагамам». (Пс. 104, 7-9). «А ты, патомак Абрагама, . . . ня бойся, бо я ёсьць з табою». (Із. 41, 8-10).

НОВЫ ЗАПАВЕТ: «(Бог Ізраэля) Ласку акажа бацьком нашым і ўспомніць сьвяты свой Запавет, прысягу, якую даў Абрагаму». (Лука 1, 72-73). «Абрагаму высказаны прырачэньні дый ягонаму патомству. Не сказана: — і патомкам — як аб многіх, але як аб адным: — і патомству твайму, якім ёсьць Хрыстос». (Гал. 1, 3-16).

НАВУЧАНЬНЕ ЦАРКВЫ. З дакрэту аб нехрысьціянскіх рэлігіях: «Усёміласьцівы Бог, рупна пастанаўляючы і прыгатаўляючы выратаваньне ўсяго чалавечага роду, асаблівым пастанаўленьнем выбраў Сабе народ, якому мог бы даць свае прырачэньні. Зрабіўшы ўмову з Абрагамам і з жыдоўскім народам праз Майсея, гэтак абʼявіўся словам і дзеяньнем выбранаму народу як адзіны, сапраўдны і жывы Бог, каб Ізраіль досьледна пазнаў, якім шляхам вядзе Бог людзей і каб праз Божае слова вуснамі пракокаў з часам шторааз лепш і ясьней гэты шлях разумеў і штораз шырэй будзіў гэтую сьведамасьць сярод народаў. Плян выратаваньня, прадказаны і выясьнены сьвятымі аўтарамі, знаходзіцца, як сапраўднае Божае слова ў кнігах Старога Запавету. Гэтыя кнігі, натхнёныя праз Бога, маюць трывалую вартасьць. « . . . бо ўсё, што напісана, было раней, напісана дзеля навукі, каб праз цярплівасьць і пацеху са Сьвятога Пісаньня мы мелі надзею». (Рым. 14, 4). «Заглыбляючыся ў тайны Царквы, гэты Сьвяты Сабор помніць аб сувязі, якая духова лучыць народ Новага Запавету з племям Абрагама. Бо Хрыстовая Царква прызнае, што пачаткі ейнае веры і ейнага выбраньня знаходзяцца паводле Божае тайны ў патрыярхаў, Майсея дый прарокаў. Прызнае, што ў покліку Абрагама зьмяшчаецца таксама поклік усіх пасьлядоўнікаў Хрыста, сыноў паводле веры таго патрыярха і што выхад выбранага народу з зямлі нявол ёсьць містычным прадказаньнем і знакам выратаваньня Царквы».

ПЫТАНЬНІ:

1) Што зьдзейсьніў Бог праз поклік Абрагама?

АДКАЗ: Праз поклік Абрагама Бог зьдзейсьніў плян выратаваньня людзей.

**ПЫТАНЬНІ:**

2) У кім Бог выпаўніў прырачэньне дадзенае Абрагаму?

АДКАЗ: Бог выпаўніў прырачэньне дадзенае Абрагаму ў Ісусе Хрысьце.

*

Тым людзям, якія маюць Біблію, радзім прачытаць разьдзел 12 з першае кнігі Майсеявай «Быцьцё» аб покліку Абрагама. Радзім таксама заглянуць у гісторыю народаў, якія жылі над рэкамі Тыграм і Эўфратам. Таксама будзе добра пачытаць аб гэтым краі ў геаграфіі.

*

## АБРАГАМ — БАЦЬКА ЎСІХ ВЕРУЧЫХ

Сьвяты Павал у Лісьце да Рымлянаў піша: Абрагаму вера палічана за праведнасьць . . . так што ён стаўся айцом усіх веручых» (Рым. 4, 9-11). У кнізе Быцьця мы чытаем: «Абрагам выбраўся ў дарогу, як загадаў яму Ягвэ... Забраў з сабою сваю жонку Сару і свайго пляменніка Лота дый усю маемасьць, якую мелі яны абодвы . . . і адыйшлі ў Канаан». (В. 12, 4-7).

Ня лёгка было Абрагаму паверыць Богу і ў Божае абяцаньне: Бог вымагаў нялёгкіх справаў. Загадаў пакінуць родны край, бацькаўшчыну, адыйсьці да чужых людзей. Па-

абяцаў яму зямлю, на якой ужо жылі іншыя народы. Казаў, што размножыць ягоных патомкаў, як зоркі на небе; але Абрагам і Сара былі ўжо старыя і не спадзяваліся мець дзяцей.

Аднак жа Абрагам паверыў! «Праз веру ... паслухаў Бога, каб ісьці ў месца, якое меў дастаць у спадчыну і выйшаў, ня ведаючы, куды ідзе. Праз веру асеў ён на зямлі абяцанай, як на чужой ... Праз веру ... Сара ... прыняла сілу на зачацьце, бо лічыла верным Таго, Хто даў абяцаньне». (Жыд. 11, 8-11).

Гэтак вось «Абрагам паверыў і Ягвэ палічыў яму гэта за вялікую заслугу». (В. 15, 6. Рым. 4, 3).

Дзякуючы гэтаму Бог пачаў спаўняць праз яго сваё прырачэньне — выратаваць усё чалавецтва. Бо Божае прырачэньне адносілася ня толькі да патомкаў Абрагама, але й да ўсіх, што «пойдуць шляхам тае веры, якую меў наш айцец Абрагам». (Рым. 4, 16). Гэта значыць, будуць мець «Абрагамаву веру».

Божае прырачэньне, дадзенае Абрагаму, споўнілася ў Хрысьце дый сяньня спаўняецца ў Ягонай Царкве. Тыя, што праз веру прыймаюць гэтае прырачэньне, становяцца патомствам Абрагама, аб якім сказаў Бог, што яно размножыцца як зоркі на небе.

НАШ АДКАЗ БОГУ: Буду верыць і спадзявацца на Бога, не зважаючы на цяжкасьці.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ: Божа Абрагама, Ізаака і Якуба, узглянь ласкава на нас і зрабі, каб мы сталіся удзельнікамі тых прырачэньняў, якія Ты даў праз патрыярхаў, прарокаў і ўканцы праз Ісуса Хрыста!

*

Каб праканацца, што нашае тлумачэньне згаджаецца са Старым і Новым Запаветам, даём яшчэ два тэксты. Першы з кнігі Макавеяў (2, 52): ці ж Абрагам у часе пакусы не аказаўся верным? І гэта было яму палічана як праведнасьць. І другі з Лісту Сьв. Паўла да Галятаў (3, 7): «Ведаеце ж, што, хто апіраецца на веры, гэтыя ёсьць сыны Абрагамавы».

ПЫТАНЬНІ:

7. Дзе спаўняецца сяньня Божае прырачэньне, дадзенае Абрагаму?

АДКАЗ: Прырачэньне, дадзенае Абрагаму, спаўняецца ў Хрыстовай Царкве.

ПЫТАНЬНІ:

8. Што рабіць, каб стацца удзельнікам прырачэньня дадзенага Абрагаму?

АДКАЗ: Каб стацца удзельнікам прырачэньня, дадзенага Абрагаму, трэба паверыць Богу!

Спрабуем самі пашукаць у Бібліі, каму Бог паўтарыў прырачэньне, дадзенае Абрагаму. Чытаць трэба разьдзел 26 Першае Кнігі Майсея «Быцьця» (2-6 і 23-25).

---

*Ч. С.*

# Крыж-рэліквіяр сьвятой Параскевы Полацкай

Незалежна ад таго ці і калі існавала сьвятая Параскева, княжна і ігуменьня Полацкая, дахаваўся да нашых дзён прыпісываны ёй крыж-рэліквіяр. Апошнім часам даведваемся аб ім з дакладу савецкага аўтара В. Г. Пуцькі, які ён зрабіў у часе канфэрэнцыі, арганізаванай Інстытутам Гісторыі АН Беларускай ССР, а якая адбылася ў сакавіку (ад 28 да 30) 1972 г. Даклад Пуцькі: «Мнимый крест Параскевы Полоцкой» знаходзіцца ў кніжцы, выданай Акадэміяй Навук БССР, яе Інстытутам Гісторыі: *Беларускія Старажытнасьці*, Мінск, 1972, стр. 210—219. Тамжа знаходзяцца і рысункі крыжа-рэліквіяра абодвых яго старон.

Крыж прыпісываны сьвятой Параскеве Полацкай ёсьць рэдкай і цікавай памяткай беларускай старажытнасьці, таму варта зь ёй бліжэй пазнаёміцца.

Успомнены крыж-рэліквіяр да першай сусьветнай вайны пераховываўся у Спаса-Еўфрасіняўскім манастыры ў Полацку. Пасьля ён зьнік і ніхто ня ведаў, дзе знаходзіцца і толькі ў 1968 г. В. Г. Пуцько знайшоў яго ў Яраслава-Растоўскім музэі, куды ён быў перавезены з рызьніцы Богаяўленскага Абрагамавага манастыра ў Растове. А сюды прывезьлі яго бежанцы зь Беларусі разам з іншым дабром Спаса-Еўфрасіняўскага манастыра ў час эвакуацыі ў 1914 г.

Калі аднак ёсьць гутарка аб крыжы сь. Параскевы, трэба сказаць хоць пару слоў і аб ей самой.

Айцец Мартынаў, які займаўся досьледамі жыцьцяпісаў сьвятых грэка-славянскай Царквы, сабраўшы ў адно ўсё тое, што напісалі яго папярэднікі аб сь. Параскеве, падае наступныя весткі: «Параскева, яна-ж ведамая

также пад імям Праксэды, дачка полацкага князя Рагвалода, ад маленства вельмі пабожная, пакліканая да евангельскай даскаіналасьці, пагардзіўшы роскашамі двара, пакінула ўвесь свой спадак свайму брату, а сама выбрала закон сьвятога Васіля і ўступіла ў Спаса-Праабражэнскі манастыр ля Полацка, заложаны сь. Еўфрасіньняй. Пражыла ў ім Параскева сем гадоў, даючы прыклад цнотаў законьніцы і таму яе сяброўкі, супроць яе жаданьняў, выбралі яе ігуменьняй. І была яна ўсімі каханай. Тады надыйшла вестка аб грознай татарскай навале. Параскева, каб ад яе ўцячы, зьліквідавала манастыр і, разьвітаўшыся з бацькаўшчынай, выбралася ў дарогу ў Рым, каб пакланіцца месцам супачынку сьвятых Апосталаў. У Рыме Параскева пражыла сем гадоў сьвятога жыцьця. Калі цяжка захварэла, была абслужана ўсімі сьвятымі тайнамі, якія прыняла з вялікай набожнасьцю. Перайшла ў нябесную бацькаўшчыну 12 лістапада 1239 году. Хутка праславілася цудамі, якія добра праверыўшы, Папа Рыгор X, абвясьціў яе сьвятой у 1273 г. Літоўцы выбралі яе сваей асаблівай патронкай і сьвяткуюць урачыста дзень яе 20 кастрычніка, бачна на памятку, калі была кананізаванай».[1])

У гэтым кароценькім жыцьцяпісе няма ані аднаго слова аб крыжы сьвятой Параскевы.



*Рис. 1. Крест-реликварий из Полоцка. Лицевая сторона.*



*Рис. 2. Крест-реликварий из Полоцка. Оборотная сторона.*

Аб гэтым аднак пісаў а. Стэбэльскі, Базыліянін.[2])

Паводле яго ў тым часе, калі ён прабываў у Полацку (г. зн. другая палавіна XVIII-га ст.), пераховуваўся ў манастыры законьніцаў Базыл'янак як памятка сьвятой Параскевы невялікі сярэбраны пазалочаны крыж, на якім быў бачны славянскі — хаця і нявыразны напіс. Паводля існуючага пераказу яго насіла сьвятая Параскева, калі была ігуменьняй: цяпер (у часах айца Стэбэльскага) гэты крыж даюць у рукі або кладуць на грудзі уміраючай законьніцы, каб аблягчыць ёй сьмерць.

[1]) J. Martinov, Annus Ecclesiasticus Graeco-Slavicus, Bruxellis, 1863, стр. 263—264.

[2]) Dwa wielkie światła na horizoncie połockim: żywoty św. św. Ewfrozyny i Parascewii, Wilno, 1781, стр. 216—219.

А. П. Сапуноў,[3]) які шмат пасьвяціў часу для праверкі розных матэр'ялаў аб жыцьці сьв. Параскевы Полацкай, уважае ўсё тое, што пераважна каталіцкія аўтары аб ёй пішуць, за легенду. Паўстала яна пад уплывам летапісу Быхаўца (XVI ст.), у якім першы раз успамінаецца аб сьв. Параскеве. У тую легенду была унесена таксама частка матэр'ялу з жыцьцяпісу сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Адносна крыжа-рэліквіяра Сапуноў, прыймаючы яго аўтэнтычнасьць, ставіў пытаньне: ці ня быў ён ахвяраваны роднай сястрой сьв. Еўфрасіньні Полацкай, Еўпраксіяй?

Бяручы пад увагу ўсё тут сказанае, мы можам зрабіць гэтакі толькі вынсаў: яшчэ патрэба правесьці шмат навуковых досьледаў, каб даць канчаткова здавальняючы адказ на такія важныя пытаньні, ці наагул існавала Параскева Полацкая і ці сапраўды кананізаваў яе Папа Рыгор X?

Таму ў справе крыжа-рэліквіяра, каб устанавіць яго век, знайсьці яго аўтара, трэба зьвярнуцца да іншых крыніцаў, чымся пададзены некаторымі аўтарамі жыцьцяпіс сьв. Параскевы. Такой крыніцай і пакуль што адзінай ёсьць сам крыж і даволі даўні на ім надпіс.

Адчытаньнем і палеографічным выглядам надпісу займаліся дагэтуль розныя моваведы і спэцыялісты ў палеографіі, як А. Востакаў, П. Кеппен, Я. Карскі, Сапуноў і ўрэшце В. Г. Пуцько. Канчатковы вынсаў быў бы гэтакі: крыж бяз сумніву трэба залічыць да старадаўніх памятак, але ён ня ёсьць старэйшым ад памятак XV—XVI стагодзьдзяў. Форма крыжа ёсьць грэцкая. Выгляд трох евангелістаў, якія знаходзяцца на канцах крыжа, прыпамінае мастацтва заходняй готыкі. Старaславянская мова, у якой апісываюцца рэліквіі (мошчы) перахоўваныя разам з крыжом, выяўляе ўплыў полацка-смаленскіх гутарак, а гэта ёсьць доказам беларускага паходжаньня крыжа-рэліквіяра.

Пуцько ў стылю евангелістаў бачыць падабенства з гравюрамі першых друкаваных славянскіх кніжак, а таксама з гравюрамі Бібліі Францішка Скарыны.

Надпіс на крыжы быў зроблены ня вельмі граматным пісцом і таму заўважваюць некаторыя памылкі. Стараўся іх паправіць перш Сапуноў, а пасьля Пуцько. Тут падамо яго так, як яго пробуе адчытаць Пуцько:

— Дрѣво животворащо, мелко пречистое, коупина неопалима, камень Божья гроба, главо Иана Крьстителя, апостола Волъхромѣя, апостола Андрѣя, еваглиста Марка, еваглиста Лоуки, светого Павла, первго моученика Лаврентеа, Пантелеимана, Федора, Стратилата, моученика Поликарпа, Фрола, Екатерины, пророка Данила, Лазаря . . . Евграфа, Игнатѣя Богоносца, светого Артемѣя. —

Доля беларускіх помнікаў старажытнасьці незайздросная: слаўны крыж сьвятой Еўфрасіньні Полацкай[4]) дзесьці загінуў, прынамсі сяньня ня маем аб ім пэўных вестак; крыж прыпісаваны сьвятой Параскеве апынуўся аж у Яраслава-Растоўскім музэі; прыдарожныя крыжы, некалі густа разсеяныя сярод нашых палеткаў, сяньня зьнішчае бязглуздая, бязбожная рука . . .[5])

О, Божа, захавай Ты нас і Сябе ад такога сораму!

---

[3]) Древности Спасо-Евфросиниевского монастыря в Полоцке. Полоцкие епарх. ведомости, 1885. — Католическая легенда о Параскеве княжне Полоцкой. Витебск, 1888. — Материалы для истории Полоцкой епархии. Витебская Старина, ч. I, т. V, 1888.

[4]) «Паводле некаторых звестак, пасля разгрому фашысцкай Германіі крыжу давялося зрабіць падарожжа за акіян», Г. В. Штыхаў, Полацкі шэдэўр XII стагодзьдзя, Помнікі Гісторыі і Культуры Беларусі, № 2, 1973, стр. 30.

[5]) Даведваемся аб варварскім нішчэньні крыжоў у Докшыцкім раёне, у мясцовасьці Парпліскі Двор і ў іншых мясцох.

# Павал VI-ы — 10 гадоў

29 чэрвеня мінула ўжо 10 гадоў ад часу прыняцьця Паўлам VI Апостальскага пасаду. Гэтую хвіліну адзначыў ён урачыстай Літургіяй у базыліцы сьв. Пятра ў прысутнасьці многіх кардыналаў, біскупаў і шматлікага народу. У прамове Папа паясьніў словы Хрыста да апостала Пятра і ў ягонай асобе да ягоных насьледнікаў: «Ты ёсьць Пётр (камень) і на гэтым камяні пабудую Царкву маю і пякельныя моцы ня перамогуць яе» (Мат. 16, 18).

Галава Царквы, якой зьяўляецца кожны насьледнік сьвятога Пятра, ёсьць камянемфундамантам яе, ня дзеля сваіх чалавечых вартасьцяў, але дзеля сваей улады непахібнай, беспамылковай веры, якую даў ёй Сам Хрыстос для дабра Царквы. Улада падтрымлівае адзінства Царквы, лучачы ўсіх у адзін

арганізм, ажыўляны Сьвятым Духам. Сваёю верай Папа умацоўвае веру ўсіх членаў Царквы: біскупаў, сьвятароў і вернікаў (Лука 22, 32). Гэтага фундаманту, праз які дзейнічае Сам Бог, Царква патрабуе асабліва цяпер — кажа Папа — будучы загрожанай унутры і звонку сіламі, якія намагаюцца яе аслабіць, падзяліць і зьнішчыць.

Падчас сьв. Літургіі Папа рукапалажыў (кансэкраваў) 10 біскупаў, паходзячых амаль з усіх кантынэнтаў сьвету.

*

10 гадоў пантыфікату — гэта адносна не вялікі пэрыяд часу, але вельмі важны для Царквы. У ім адбыліся вялікія зьмены і падзеі. На пачатку дзеіў Ватыканскі II Сабор, а Павал VI заняўся увядзеньнем ягоных пастановаў у жыцьцё. Ян XXIII адчыняючы Сабор, адчыніў (як сам казаў), «акно Царквы на Божы сьвет», каб упусьціць у нутро больш сьвятла і паветра і каб убачыць, што трэба упарадкаваць... А заслугай Сабору і Паўла VI ёсьць тое, што яны сапраўды ўбачылі, што трэба зрабіць і многа чаго дакаsuccessfullyналі.

Найперш было праведзена аднаўленьне і рэформа Літургіі: яна атрымала даўнейшую прастату, яснасьць і сталася больш прыдатнай да малітвы і духовага хлеба сучаснага чалавека. Асабліва прычыніўся да гэтага пераклад Літургіі на народныя мовы, каб кожны мог яе разумець. Даўней яна адпраўлялася пераважна ў лацінскай мове.

## РЭФОРМА ДУХОЎНЫХ СЭМІНАРЫЯЎ

Пасьля Папа згодна з указаньнямі Сабору дастасаваў выхаваньне і эдукацыю студэ́нтаў духоўных сэмінарыяў да патрэбы сучаснага сьвету і да псыхікі сучаснага чалавека. Таксама і іншыя справы, як напрыклад лепшае пазнаньне Сьвятога Пісьма, каб зрабіць яго даступным усім вернікам, стварылі спрыяльныя умовы для духовага аднаўленьня Царквы.

## РЭФОРМА ГАЛОЎНЫХ ЦАРКОЎНЫХ УСТАНОВАЎ

Пры дапамозе гэтых установаў Царква дзейнічае, арганізуе і узгодніваае сваю працу на ўсім сьвеце. Павал VI грунтоўна зрэфармаваў царкоўныя інстытуцыі, каб былі больш прыдатнымі выконываць сваю працу. Паклікаў новых працаўнікоў з усялякіх нацыяў і краёў. Даўней туліліся да Ватыкану пераважна італьянцы і блізкія суседзі. Гэты прыплыў новых людзей з розных кантынэнтаў і расаў прыблізіў царкоўныя установы да ўсіх вернікаў: Калегію кардыналаў і сьвятыя Кангрэгацыі (на падабенства сьвецкіх міністэрстваў), Рымскую Курыю і інш. Праз гэта Каталіцкая Царква прыбліжаецца да сучаснага сьвету, да ягоных патрэбаў і праблемаў духовых і дачасных. Зьяўляюцца ў Царкве людзі ўсялякіх культураў (нават старадаўных), усялякіх традыцыяў і коляру скуры. Калегія кардыналаў падвоілася: увайшлі прадстаўнікі ўсяго каталіцкага сьвету.

Да больш інтэ́нсыўнай працы прычынілася яшчэ вымена і адмаладжэньне працуючых. Час працы абмежаны да 75 гадоў веку і пасьля гэтага кардыналы й біскупы маюць зракацца са сваіх становішчаў. Раней аставаліся яны на сваіх месцах да самай сьмерці, хоць і ня здольныя да працы. Кадэнцыя галоўных кіраўнікоў на установах мае трываць нармальна 5 гадоў, а па гэтым тэрміне працоўнік можа быць выбраны нанава, або уступіць месца другому.

## ДЭЦЭНТРАЛІЗАЦЫЯ

Сабор увёў новы парадак: вышэйшая установа ня робіць таго, што можа рабіць ніжэйшая. Раней шмат функцыяў і абавязкаў набіралася ў кампэтэнцыі аднэй асобы ці управы і таму цягнулася працэдура вельмі доўга. Павал VI увёў радыкальную рэформу, пачынаючы ад сябе: падзяліўся абавязкамі з уладай краёвых Кангрэгацыяў — з біскупамі усяго сьвету і з Сусьветным Эпіскапальным Сынодам. Гэтым чынам, асабліва праз супрацу з Сынодам Папа даў пачатак, каб рашаць справы царкоўныя калегіяльна, што каталікі і іншыя хрысьціяне прынялі з вялікім прызнаньнем і здаваленьнем.

## ПАПРАЎЛЯЦЬ ЧАЛАВЕЧАЕ, А НЕ ЗЬМЯНЯЦЬ БОЖАГА

Пуцяводнай думкай усіх гэтых зьменаў ёсьць дастасаваць Царкву да патрэбаў сучаснага сьвету, да цяперашніх умоваў і да поступу, не зьмяняючы нічога ў ёй Божага. Тое самае Папа усьцяж прыпамінае з націскам багасловам і мастаком, каб, паясьняючы Божае слова праўдаў веры сучаснай мовай, або выяўляючы іх мадэрным мастацтвам, не зьмянялі ў іх нічога істотнага, але толькі яшчэ ярчэй выражалі іх мудрасьць і прыгажосьць сучаснаму чалавеку, каб Божыя праўды глыбей пранікалі ў розумы і сэрцы.

Спаўняючы свой абавязак, як Настаўнік, Судзьдзя і Вартаўнік чысьціні веры і ма-

ральнасьці, Папа даў доказ сваей няўступчывасці, якая выклікала многа крытыкі і нездаваленьня з боку некаторых каталікоў (нават і духавенства) і іншых хрысьціян, а самому Папе прычыніла нямала прыкрасьці і цярпеньня. Асабліва гэта бачылася, калі выдаў энцыкліку «Гуманэ вітэ», у якой супрацівіўся аборту і немаральным контрацэптыйным сродкам. Таксама не спадабалася некаторым багасловам-экуменістам, якія хацелі ўжо увесьці лучнасьць у хрысьціянстве коштам праўды, калі Папа прыпомніў ім у дакуманце «Вызнаньне веры», што ніякай праўды, абяўленай Богам, чалавек ня можа папраўляць ані зракацца, хаця бы і для вельмі важных прычынаў Паводле свайго абавязку і адказнасьці перад Богам і людзмі Папа консэквэнтна ідзе за прынцыпам, што ў справах веры і маральнасьці мусіць тасавацца не да апініі людзей, але яны павінны тасавацца да Божага права, якога Папа ёсьць Вартаўніком з волі Хрыста!

## СПРАВА АДЗІНСТВА ЦЭРКВАЎ

Павал VI не абмежываецца толькі ўнутранымі царкоўнымі справамі, але выходзіць на сустрэчу «адлучаных братоў», каб разам з імі працаваць над адбудовай адзінства Хрыстовай Царквы. Папа ажыўляе саборны дакрэт аб экумэнізьме і у гэтай галіне разгарнуў вялізарную працу. Заснаваў Сакратарыят для справаў адзінства і іншыя камісіі, праз якія Царква ўвайшла ў прыязны дыялёг з праваслаўнымі, з пратэстантамі і з няхрысьціянамі-жыдамі, музулманамі, а нават з атэістамі! Каб прыблізіцца да вялікіх паганскіх народаў, Павал VI падарожнічаў у Індыю, на Філіпіны, у Гонконг-«Браму Кітаю». Двойчы сустракаўся з Патрыярхам Атэнагарам I ў Ерусліме і ў Стамбулі. У сябе часта прыймае прадстаўнікоў розных хрысьціянскіх цэркваў, якія прыбываюць з візытай, або з рэвізытай. З імі дыскутуе, моліцца, пляную над паправай адзінства Хрыстовай Царквы, разбітай і падзелянай. Дзякуючы нястомнай працы Папы, жаданьне й малітва Госпада Ісуса Хрыста, «каб усе былі адно», даходзіць да сьведамасьці і сэрца што раз большага ліку хрысьціян і мабілізуе іх да малітвы і працы да злучэньня.

## У СЛУЖБЕ СУПАКОЮ І БЕДНЫХ НАРОДАЎ

Павал VI стаўся адным з найбольшых змагароў за супакой на сьвеце і помач для бедных, заняпаўшых эканамічна краінаў, так наз., «краінаў трэцяга сьвету». Бязупынная турбота займае ўсьцяж ягоную думку і забірае яму шмат сілы і часу. Пры кожнай нагодзе намагаецца праканаць публічную апінію, што супакой на сьвеце, так усімі пажаданы і чеканы, не зважаючы на ўсе перашкоды, ёсьць магчымым і што кожны мае абавязак да яго прычыняцца. Дапамога бедным народам і краінам, каб яны маглі быць самастойнымі ў эканамічным і палітычным жыцьці, зьяўляецца неабходнай умовай сусьветнага супакою. Папа выконвае гэтую працу ня дзеля асабістага ўпадабаньня, але перш за ўсё дзеля таго, што гэта ёсьць місія Хрыстовае Царквы. Бо і Сам Ісус Хрыстос, жывучы на зямлі, служыў дачасным і духовым справам людзей, дык таксама і ягоная Царква мае абавязак служыць народу. Праз гэты нядоўгі час, 10-ці гадоў, Павал VI стаўся адным з самых выдатных Папаў і паводле апініі ня толькі каталікоў, але і іншых людзей сьвету, стаўся найбольш выдатным чалавекам сучаснага сьвету, апякуном чалавека і чалавецтва, як заўважыў у сваім пастырскім пасланьні Кардынал Гіннан.

## МАЛІЦЕСЯ ЗАЎСЁДЫ!

*«Двое людзей прышло ў сьвятыню, каб памаліцца».*

(Лука 18, 10)

Ня бойся зьвяртацца да Бога, хоць ты не ў сьвятыні, ці хоць ты ня прыкленчыў. Ня бойся зьвяртацца да Бога, калі ўжо ляжыш у ложку дый успомніш сабе, што забыўся памаліцца — і не адмовіў пацераў, бо ты пачуваўся досыць змучаны. Ня бойся зьвяртацца да Бога, ідучы ці едучы на свае заняткі дый прыпомніш сабе, што раніцай не адмовіў пацераў, бо ня было ўжо часу; або проста таму, што не хацелася. Ня бойся зьвяртацца да Бога, калі пачуваеш на сабе грэх; ня бойся нат' і тады, калі ведаеш добра, што грэх здарыўся ня выняткова, але ён у табе здаўна дый ня можаш заручыцца, што гэтая справа ў табе зьменіцца . . .

Ідзе аб тое, каб ты ў Хрысьце ўбачыў свайго Збавіцеля! Малітва ёсьць размовай з Богам. Навучыся жыць з Богам!

Бог стварыў сьвет. Стварыў кожнага з нас. Бог азначыў кожнаму пачатак і канец. Сын Божы стаўся Чалавекам і памёр за нас на крыжу.

Бог табе даруе, калі захочаш да Яго вярнуцца.

*М. Малінскі*

# З царкоўнага жыцьця

*а. Ф. Журня*

## 1975 — СЬВЯТЫ ГОД

ПАПА ПАВАЛ VI аб'явіў 1975 СЬВЯТЫМ ГОДАМ, Юбілейным. Пачнецца ён на Каляды ў 1974 г. Тады Папа урачыста адкрые гэтае сьвяткаваньне. Пачатак такіх юбілеяў быў у 1300, калі Папа Боніфацы VIII даў першы такі апэль: перш толькі раз на сто гадоў, пасьля кожныя 50 гадоў, а нарэшце — кожныя 25 гадоў, бо кожнае пакаленьне жадала быць удзельнікам такога сьвяткаваньня. Ідэя Сьвятога Году — аднаўленьня рэлігійнага жыцьця і паяднаньня з Богам праз споведзь сьвятую Камунію і адпусты.

Гэты Сьвяты Год, як адзначыў Папа, будзе асабліва ўрачысты, бо зыходзіцца з заканчэньнем — 10-ых угодкаў Ватыканскага II Сабору. Дый гэты Год мае быць выдатным у тым значэньні, каб ухараніць Мір — згоду — супакой з БОГАМ і з БЛІЖНІМІ — людзьмі ўсяго сьвету, — агульнае прымірэньне ў найшырэйшым засягу гэтага слова — з людзмі усіх рэлігіяў, нацыяў і расаў — прымірэньнем, якое у фундаманце сапраўднага унутранага супакою ў кожным чалавеку і між усімі людзьмі пачынаецца адновай жыцьця чалавека з Богам, да чаго Сьвяты Год мае рашуча прычыніцца. Характэрнай прыкметай Гэтага Юбілею будзе тое, што юбілейныя адпусты, якія даўней можна было атрымаць толькі ў Рыме, цяпер расцягнуцца і на асобныя дыяцэзіі, парахвіі і касьцёлы. Папа даканаў гэтага таму, каб усе маглі ўчасьчаць у багатых крыніцах Божае ласкі, нават тыя, што ня могуць прыбыць да Рыму!

## ДЗЕНЬ ПРЫЗВАНЬНЯ ДО СЬВЯТАРСТВА

Назначаецца адна нядзеля па Вялікадні на Дзень Сьвятарства — сьвятарскіх прызваньняў. У такі Дзень адбываюцца спэцыяльныя малітвы і гаворацца казаньні. Сёлета ў сваім закліку Папа заахвоціў усіх да руплівасьці аб такія прызваньні, бо выявілася нястача сьвятароў на місіях і ў многіх хрысьціянскіх краях. Папа казаў, што гэта ёсьць асабістае запрошаньне, скіраванае да пабожных людзей — да супрацы з Богам для збаўленьня людзкіх душаў і для дабра цэлага сьвету. Сам Бог просіць — заклікае людзей на сваю службу. Прыпамінаецца гэта з націскам бацьком, сьвятаром і выхаваўцам — абавязак прыпамінаць моладзі і старэйшым, каб яны маглі пазнаць Божае прызваньне, каб яны маглі ахвотна і адважна пайсьці. Хрысьціянская сям'я ёсьць першай сэмінарыяй сьвятарскіх прызваньняў.

## ДЗЕНЬ МАСАВЫХ СРОДКАЎ СУВЯЗІ

Сёлета 3-га чэрвеня (ужо сёмы раз) быў сьвяткаваны гэты ДЗЕНЬ СУВЯЗІ. Царква зьвертае ўвагу на такія масавыя сродкі сувязі, як радыё, тэлевізія, кіно, рэклама, прэса і іншыя спосабы публікацыі — вестак. Яны маюць вялікае зна-

*Рыгор Крушына*

## NOTRE-DAME

У Парыжы ёсьць сабор Нотр-Дам.
Хараство і веліч! Дзіва звышдзівоснае!
Як-жа вам я ў слове перадам
Захапленьне ў вобразы непераноснае?

На сьцяну ня голуб, ня жураў
І ня зьвер, а злосная пачвара ўбілася.
Страх! На Гмах сьвяты я пазіраў,
І душа мая цішком перахрысьцілася.

А пачвары — зьлепкі мастакоў
Прамаўлялі мне, што трэба тут ачысьціцца,
Што ўвайсьці ня проста ў мірны схоў,
Як звычайна зацікаўлены ў турыстыцы.

Недарэмна з-пад пяра Гюго
Хараство глядзела вечнай Эсьміральдаю,
І пачварны Квазымода празь яго
Званаром быў, клічам, Божаю прыладаю.

Я ўвайшоў . . . Я адчуваў нутром,
Што пабожным чыстым пачуцьцём закрануты,
Бо Нотр-Дам ня толькі Божы Дом —
Дух Сьвяты, каменнай рызаю апрануты.

## «КРЫЗЫС» РЭЛІГІІ

Гавораць, што каталічаскія сэмінарыі пусьцеюць і манастыры пусьцеюць і што з іх бягуць усе. Дый гэта ня першы раз. Самі апосталы разьбегліся з першае хрысьціянскае сэмінарыі — гэта быў усім сэмінарскім крызысам крызыс!

Цяпер бачыце, што крызыс ад хрысьціянства не аддзеляны.

Ды і апостал Павал папераджаў, што хрысьціянства для грэкаў — ёсьць вар'яцтвам, а для жыдоў — скандалам . . .

Але ж хрысьціянства, дзякуй Богу, складаецца не з адных пастухоў, валхвоў і з апосталаў. Бо ёсьць у ім Хрыстос, Каторы быў «учора, сягодня і заўтра і навекі Тойсамы». І Пацешыцель Дух Сьвяты, я думаю, навекі саў. А для нашай чалавечай стараны крызысаў. Адля нашай чалавечай стараны крызысы могуць быць і для збаўленьня . . .

*М. І. Меерсон-Аксёнаў*

чэньне ў нашым жыцьці, бо праз гэта людзі паведамляюцца аб усім, што дзеіцца на сьвеце. Гэтыя сродкі фармуюць пагляды на рэчаіснасьць і так даецца зьмест і напрамак духовому жыцьцю.

Тэмай і заклікам сёлетняга ДНЯ СУВЯЗІ было: «*Масавыя сродкі, а Духовае жыцьцё*». На малітвах, у прамовах і дыскусіях зьверталася ўвага людзей на тое, што гэтыя сродкі перадаюць весткі і апініі часта безвартасныя, або нават шкодныя, — дык чаму ня выкарыстаць іх для духовых вартасьцяў, якія Бог аб'явіў чалавеку, якія мы маем у сьвятым Пісаньні і Евангеллі? Чаму гэтыя сродкі не маюць служыць весткам праўдзівым? Сам Бог вучыць людзей справядлівасьці, любові, праўды, чыстаты абычаяў, згоды і супакою. Дый сапраўды ад гэтага залежыць шчасьце чалавека, якога прагнуць і шукаюць людзі. Такія сродкі перказу добрых вестак — гэта ёсьць Божы Дар і чалавек павінен ужываць іх разумна і з карысьцяй, а ніколі для Божае абразы і дэмаралізацыі сьвету.

## ПРЫЗВАНЬНЕ ЖАНЧЫНЫ

Нядаўна Папа заснаваў спэцыяльную камісію — дасьледаваць ролю жанчын у грамадзтве і ў Царкве. У склад гэтае Камісіі ўвайшлі жанчыны з розных краёў цэлага сьвету і разнаякіх прафэсіяў, 25 чалавек. З мужчын увайшлі: кардынал, як старшыня, адзін праўнік, лекар, сацыялёг.

Мэта Камісіі: Дапамагчы Царкве ў евангелізацыі жанчын да ўчасьніцтва і адказнасьці ў грамадзкім і царкоўным жыцьці, асабліва ў тых галінах, у якіх яны ёсьць з сваей натуры больш кампэтэнтныя, інакш кажучы, да якіх Бог іх паклікаў. Таксама гэтая Камісія мае дапамагчы Царкве лепш пазнаць патрэбы і праблемы жанчын, каб маглі лепш выканаць сваё душпастырскія абавязкі.

## ЦАРКВА Ў АБАРОНЕ БЕДНЫХ

У Паўночна-Усходняй Бразыліі 13 біскупаў апублікавалі дакумент, у якім — насупраць хвальбы і статыстыкі — яны выяўляюць аб вялікім занедбаньні ў эканамічным і культурным жыцьці 30 мельёнаў людзей. Да гэтага далучаецца гора, што людзі добрай волі і з ініцыятывай нічога ня могуць папрравіць, бо ім усялякімі законамі і прыдзіркамі урад не пазваляе! Такія «законы» — гэта чьстая беззаконнасьць: нястача хлеба, безрабоцьце, няпісьменнасьць, атсталасьць, дыскрымінацыя, прастытуцыя, узрастаючая рознасьць між багатымі і беднымі . . . Няма свабоды слова і асабістай волі . . . Усё гэта вытыкае выданы дакумант біскупаў, але ўрад заразз загадаў той дакумант сканфіскаваць . . .

## ЭКУМЭНІЗМ. ВІЗЫТ ПАТРЫЯРХА КОПТАЎ

У чэрвені наведаў Паўла VI Александрыйскі Патрыярх, ШЭНОЎДА III. Гэта была першая сустрэча галавы Царквы коптаў у працягу 15-ці стагодзьдзяў пасьля разлукі. Таму абодвы былі гэтым вельмі ўсхваляваныя. У прамовах адзін і другі падкрэсьлілі патрэбу супрацы ў аднове адзінства між цэрквамі, не зважаючы на перашкоды, якія зайшлі праз такі доўгі час і якія маюць ужо больш характар гістарычны і культурны, чым рэлігійны — адносна важных дагматаў веры. У выніку сустрэчы рашылі заснаваць супольную Камісію, якая займецца справай.

## МАСКВА—ЗАГОРСК.
## — СУСТРЭЧА КАТАЛІКОЎ І ПРАВАСЛАЎНЫХ

Адбылася ў чэрвені сустрэча на Мяшанай Камісіі. Ад Ватыкану была дэлегацыя з Нью-Дэлі на чале з арцыб. Фэрдынандам і ад правасл. мітрапаліт Мікалай з сваей дэлегацыяй. У супольным камунікаце сьцьвердзілі вялікую ролю сьв. Літургіі ў жыцьці абедзьвюх Цэркваў. «Літургія, як кажа дакумант, ня толькі лучыць людзей на малітве ў сьвятынях, але вучыць іх сужыцьця ў згодзе і супакою. Літургія прапавядае Божае Слова і памагае яго добра зразумець, як кажа царкоўны прынцып: «Закон малітвы — Законам веры». Была таксама падкрэсьлена супольнасьць любові — помач церплячым на цэлым сьвеце дый патрэба ўцягваць да гэтага хрысьціянаў іншых цэркваў. У часе дыскусіі была заўвага, што існуюць разнаякія формы сацыялізму і што ў іх знаходзяцца і добрыя стораны, якія хрысьціяне павінны прызнаваць і супрацоўнічаць з імі.

## ВІЗЫТ У ПАПЫ
## ПАТРЫЯРХА БУДДЫСТАЎ З ЛЯОСУ

Віатючы дастойнага гасьця, Папа выявіў свой сардэчны спагад з прычыны цярпеньняў, якія пераносяць ягоныя вернікі з рацыі вайны ў Інда-Кітаі. Патрыярх між іншым падкрэсьліў супольныя пагляды, якія маюць буддыйская і хрысьціянская вера. Напрыклад, абедзьве кладуць вялікі націкс на любоў, як найважнейшую справу ў рэлігіі. Буддызм прызнае, што любоў да кожнага чалавека павінна быць такой, якую мае матка да адзінага дзіцяці, за якое аддае сваё жыцьцё. Кожная, правільна практыкаваная рэлігія, заўважыў Патрыярх, ня дзеліць людзей, але лучыць і вядзе да дабра. Не магчыма ўявіць, да якога зьнішчэньня адны другіх людзей дайшлі б, каб ад іх адабраць рэлігію!

## У СПРАВЕ «ЦЭРКВЫ МАЎЧАНЬНЯ»

Апошнім часам каталіцкія часапісы зьвярнулі увагу на апінію некаторых людзей, што каталікі на Заходзе быццам забыліся пра сваіх вернікаў у камуністычных краях. А там яны яшчэ і цяпер пераносяць жорсткі рэлігійны прасьлед! На гэта трэба сказаць, што каталікі ўсьцяж моляцца за сваіх субратоў у веры і спачуваюць ім. Тое, што цяпер менш пішацца пра той прасьлед, тлумачыцца тым, што Нашая Царква робіць захады і стараньні, каб уладзіць у тых краях, хоць магчымыя ўмовы для рэлігіі. Таму часамі Царква прамаўчыць дый не падыймае алярму, каб ня перашкодзіць у перагаворах з урадамі гэтых краёў. Наагул Царква баіцца, каб не задражніць ворага і ня выклікаць яшчэ горшага прасьледу і націску супраць веры і на шкоду вернікаў.

## ЦАРКВА Ў КІТАІ

У часапісе «Жыцьцё і Праца» ангельскі прафэсар І. Фільмінг падаў крыху інфармацыі аб жыцьці хрысьціянаў у Кітаі, між іншым і аб Каталіцкай Царкве. Ён прабываў там і меў сустрэчу з рэлігійнымі групамі. Думае, што каталікоў там будзе каля 2-х мільёнаў. Спаткаўся з каталікамі ў Пэкіне, — налічваецца іх 5 600. Там працуе 20 сьвятароў і 30 манашак. Усё ідзе там старым ладам. Ватыканскі Сабор у іх мала ведамы. Пры камуністах, з іх ініцыятывы і пад націскам была створана ў 1957 г. «Каталіцкая Патрыятычная Царква», якая мела супрацоўнічаць з урадам і не падлягаць Рымскаму Папе, якбы «Народная Царква». Урад пазволіў кансэкраваць 42-х біскупаў. Такая кансэкрацыя ёсьць важнай, але нялегальнай. Папа Пій XII не пацьвердзіў іх на становішчах. Лік каталікоў гэтае групы пакрысе павялічваецца — ці то праз натуральны прырост, ці то праз хрост дарослых з паганскага асяродзьдзя.

## ЗАІРЭ — КОНГО

У гэтым годзе сытуацыя Каталіцкае Царквы ў Заірэ значна пагоршала. Прэзыдэнт Мабуту, як дыктатар, ліквідуе кожны праяў самадзельнага жыцьця. Царкву аграніčыў да апошняе ступені: пакасаваў усе касьцельныя арганізацыі і 30 катал. часапісаў. Забараніў біскупам і сьвятаром зьбірацца на сабраньні ў душпастырстве. Пры хросьце нельга даваць хрысьціянскія імёны, а толькі паганскія, нібыта для павароту да радзімае культуры. Тымчасам супраца з каталікамі была бы больш карыснай для краю, чым змаганьне з імі, бо у Заіры лік каталікоў даходзіць да 38 процант. Дый хрысьціянства ня нішчыць народнай культуры, але ўзбагачае адвечнымі вартасьцямі. Урадоўцы кажуць, што біскупы павінны быць перш заірцамі, а пасьля ўжо біскупамі. Аднак біскупы адказваюць, што могуць і хочуць быць добрымі біскупамі і добрымі патрыётамі...

## «УМБАНДА»

Гэтае слова азначае новую рэлігію ў Бразыліі, якая хутка пашыраецца сярод хрысьціянаў, асабліва між беднымі масамі. Пачатак ёй далі нэгры-нявольнікі, прывезеныя туды з Афрыкі партугальцамі на работу — ужо пару сотак гадоў таму. Праз гэты час яны зьмяшаліся з белымі і спалучылі сваю паганскую рэлігію з хрысьціянскай: у выніку гэтага паўстала рэлігія, якбы «мешаніна» аднаго з другім. Гэта глыбокая вера ў духаў: шмат сьпеву, танцаў і іншых абрадаў. З гэтага паўстала вялікая папулярнасьць гэтай рэлігіі між хрысьціянамі, асабліва мала сьвядомымі ў праўдзівай веры. Хрысьціянскія таямніцы (сакраманты) зьмяшаліся з паганскімі абрадамі і страцілі сваю вартасьць.

Біскупы прызналі «умбанду» вельмі небясьпечнай для нашай веры. Нават у Ріо-дэ-Жанэйро і ў ваколіцах на 500 каталіцкіх цэнтраў выпадае 3 000 пляцовак «умбанда». Праводзіцца дыялог з іхнымі кіраўнікамі і дакладная катэхізацыя, але стаіць на перашкодзе нястача сьвятароў і катэхістаў. Нямала такіх, што мяшаюць каталіцкую навуку з той «умбандой». Некаторыя багасловы прапануюць дапусьціць у касьцёл часткава іхнія абрады, не парушаючы нашай веры дый гэтак ратаваць хрысьціянства...

## ПРАЦЯГЛАЯ СУША Ў ЗАХОДНЯЙ АФРЫЦЫ

Найбольш пацярпелі: Нігер, Горная Вольта, Сэнэгаль, Чад і Маўрэтанія — 15 мільёнаў народу! Гэтыя краіны наагул сухія і ў апошніх 5 гадох бадай зусім ня мелі дажджу... Між іншымі прычынамі сушы была неразважная высечка лясоў. Людзі жывуць пераважна гадоўляю быдла, якое дзеля нястачы травы і вады непамерна гіне. Дый народ гіне ад смагі, найбольш дзеці і ўжо паўтара місьёну жыхароў загрожаны голадам. Ноччу вандруюць з месца на месца, шукаючы вады і хлеба!.. Дабрачынныя арганізацыі каталіцкія і інш. вызнаньняў злучаюцца ў супольную акцыю помачы, Павал VI вельмі да гэтага пабуджае.

## МАНАХІ НА ГАРЭ АТОС

Ужо больш тысячы гадоў існуюць на гарэ Атос манастыры і манахі — праваслаўныя. Выбралі сабе месца на гарыстым, высунутым ў мора паўвостраве ў паўночнай Грэцыі. Манастыры

займаюць плошчу 171 кв. кілямэтр: жывуць у 20-х манастырох і цешуцца аўтаноміяй у дзяржаве, якую ўжо мелі ад пачатку свайго існаваньня. У царкоўнай герархіі залежаць ад Канстантынопальскага Патрыярха. Маюць сваю багатую традыцыю і прычыняюцца да захаваньня глыбокай веры. Адпраўляюць вельмі доўгія і ўрачыстыя царкоўныя службы і сапраўды іста моляцца. Укладаюць царкоўныя кнігі, малююць сьвятыя абразы. Адзначаюцца вялікім кансэрватызмам — аж перашкаджаюць біскупам праводзіць належныя рэформы! Байкатуюць новы каляндар у цэрквах, хоць наагул усходнія цэрквы ўжо паступова пераходзяць на новы стыль. Утрымліваюць старажытныя музэі і бібліятэкі, зьбіраючы астаткі старажытнай культуры. Дажываюць пераважна да глыбокай старасьці. Лік манахаў даходзіў даўней да 10 і болей тысяч. Цяпер з нагоды крызысу рэлігіі ў Савецкім Саюзе зьменшыўся лік манахаў расейцаў і украінцаў, а такжа сэрбаў і баўгараў дый румунаў, так што не даходзіць да аднэй тысячы. Яшчэ найбольш там грэкаў...

БЯСЬПЕКА ЭЎРОПЫ — КАНФЭРЭНЦЫЯ

Сабраліся сёлета ў Гэльсінкі дзяржавы Эўропы, а ў іх ліку і Ватыкан (арцыб. Агостіно Казаролі). Быў Савецкі Саюз і др. з ім, саюзныя, як Польшча, Усх. Нямеччына і інш. — так наз. «Блёк Усходні»; а супраць іх іншыя — «Блёк Заходні».

Згаварыліся, як узгодніць адносіны і сужыцьцё: шанаваць правы чалавека і ўмовы поўныя даверу. Прадстаўнік Ватыкану, Казаролі, казаў: «Апостальскі Пасад, калі ідзе справа пра бясьпеку і добрае зразуменьне між народамі... трэба шанаваць права чалавека і фундамантальную свабоду... асабліва падкрэсліў СВАБОДУ РЭЛІГІІ... на карысьць усіх веручых, каб гэта было супольным, непарушным прынцыпам кожнай дзяржавы, якога колечы устрою».

Гэта ёсьць справа ня толькі абмяжаваць збраеньне і раўнавагу мілітарных сілаў... але перш за ўсё справа справядлівасьці, якая ёсьць у фундаманце кожнага супакою... «прызнаньне роўнасьці ўсіх народаў і права іх самастойна рашаць аб сабе самых... бяз ужываньня пагрозы і сілы».

## З беларускага жыцьця

### СЬВЯТАРСКІЯ ЮБІЛЕІ АЙЦОЎ Я. ГЭРМАНОВІЧА І Я. ТАРАСЭВІЧА

У тым самым дню, г. зн. 15 ліпня 1973 г., Айцы Язэп Гэрмановіч і Янка Тарасэвіч сьвяткавалі ўгодкі свайго сьвятарства: першы 60-цігодзьдзе ў Лёндане, а другі 50-цігодзьдзе ў Чыкага.

Айцец Я. Гэрмановіч адправіў сьв. Літургію ў заходнім (лацінскім) абрадзе ў капліцы Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла ў Марыян Гаўз у саслужэньні з а. Ф. Журнам. Сам саленізант пераклаў тэкст сьв. Літургіі з лацінскай на беларускую мову.

Гэта дапамагло ўсім прысутным вернікам прыняць удзел у Літургіі. Казаньне аб сьвятарстве і аб дзейнасьці сьвятара Я. Гэрмановіча гаварыў а. Тамаш Падзява. Капліца была перапоўненая. Сьвятое прычасьце раздавалася пад двума відамі Хор пад кіраўніцтвам Г. Пікарды прасьпяваў *«Сьвяты Божа», «О, мой Божа, веру Табе»* і *«Магутны Божа»*.

Пасьля сьв. Літургіі адбылася акадэмія ў чэсьць юбіляра ў залі школы сьв. Кірылы Тураўскага. Кіраваў акадэміяй Біскуп Ч. Сіповіч, які такжа прачытаў даклад аб дзейнасьці айца Гэрмановіча сьвятарскай, грамадзкай і ў галіне літэратуры. Алесь Здановіч дэклямаваў нека-



торыя паэтычныя творы Вінцука Адважнага. Саленізант атрымаў шмат прывітаньняў: ад Айца Сьвятога Папы Паўла VI, ад беларусаў і ад іншых прыяцеляў. З прысутных віталі Я. Міхалюк, Старшыня ЗБВБ, Г. Пікарда, Сакратар Ангельска-беларускага Таварыства, сп. К. Глінскі. Паэтка Вера Рыч ўручыла айцу Язэпу ручнічок, вышыты беларускім узорам.

Усім і за ўсё шчыра і з гумарам падзякаваў сам саленізант. Супольным абедам (гуляш прыгатаваны сп-няй Альжбетай Б-ч) і імправізаванымі сьпевамі закончылася гэта нязвыклая урачыстасьць.

Падобная да лёнданскай адбылася урачыстасьць у Чыкага, дзе а. Янка Тарасэвіч, з закону Айцоў Бэнэдыктынцаў, абходзіў 50-я ўгодкі свайго сьвятарства. Прыняў у ей удзел а. Францішак Чарняўскі. Айцец Янка Тарасэвіч зьяўляецца дзеля сваіх нерастаропных выступаў «чырвоным дзеканам», аднак — як ён сам кажа — яго найвялікшым жаданьнем ёсьць папрацаваць для улюблёнай Беларусі з Хрыстом, у Хрысьце і праз Хрыста. Гэтага і мы яму шчыра жадаем і таму няхай жыве «Сто год!».

## СЬМЕРЦЬ АЙЦА МІХАЛА УРБАНОВІЧА



*а. Міхал Урбановіч Марыянін*

Дня 4 жніўня 1973 г заснуў на векі ў доме для старыкоў у Чыкага, Ілліноіс (Лёрэто), пражыўшы блізка 83 гады, Айцец Міхал Урбановіч. Радзіўся ён у даўняй гродненскай губэрніі 30 кастрычніка 1890 г. у Астрыне. Ідучы за Божым паклікам, уступіў у сэмінарыю (1910 г.), скончыўшы якую, быў рукапаложаны ў сьвятары 24 студзеня 1915 г. У 1922 пажадаў стацца Марыянінам. Злажыўшы першыя шлюбы, хутка выехаў у Злучаныя Штаты Амэрыкі (1924), дзе выконваў розныя паручаныя яму абавязкі: настаўніка ў гімназіі, прафэсара ў духоўнай сэмінарыі і іншыя.

Праз апошніх некалькі гадоў трымаўся з беларусамі, пісаў артыкулы ў «Божым Шляхам», зьбіраў ахвяры, каб дапамагчы беларускім установам. Сьвятар прыкладны, інтэлігентны. Шмат меў знаёмых сярод амэрыканскіх віленчукоў і гэта памагло яму стацца дабрадзеям Дому Марыянаў у Лёндане. Няхай адпачывае ў супакоі вечным!

## СЬМЕРЦЬ АНТОНА ЦЬВЯЧКОЎСКАГА

Прыйшла з Беларусі вестка аб сьмерці А. Цьвячкоўскага. Радзіўся ён у Шальцінах (Мёрскі раён) 2 кастрычніка 1911 г. Скончыўшы друйскую гімназію Айцоў Марыянаў студыяваў у Вільні. У час нямецкай акупацыі быў бургомістрам, пасьля доўгія годы пакутваў на Сібіры. Вярнуўся адтуль з вельмі падкошаным здароўем. Быў ён шчырым беларускім патрыётам. Крыху пісаў і друкаваўся ў віленскіх часапісах пад псэўдонімам А. Кумша. Беларуская бібліятэка ў Лёндане заўдзячвае яму рэдкую сяньня кніжку: «Чатыры Евангеліі і Апостальскія Дзеі» ў перакладзе а. Вінцэнтага Гадлеўскага, выданай у Вільні ў 1939 г. А. Цьвячкоўскі памёр там, дзе і радзіўся — у Шальцінах.

## АЙЦЕЦ А. НАДСОН СЯБРАМ ТАВАРЫСТВА СЛАВІСТАЎ ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

У гэтым годзе Таварыства Славістаў Вялікабрытаніі выбрала Айца Надсона сваім сябрам. Айцец А. Надсон зьяўляецца бібліятэкарам Беларускай Бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане.

## РАДЫЁ «ВОЛЬНАЙ ЭЎРОПЫ» АБ БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІХ АДНОСІНАХ

Радыё «Вольная Эўропа», польскі сэктар, у днях 12 і 13 жніўня перадала гутаркі Я. Міхалюка, беларуса і К. Трэмбіцкага, паляка. Тэмай абодвух прамоўцаў былі іхнія пагляды на адносіны паміж народамі беларускім і польскім, паміж дзьвюма дзяржавамі — Беларусяй і Польшчай.

Абедзьве перадачы былі моцна заглушаныя, аднак можна было іх пачуць такжа ў Лёндане.

Выхадным пунктам для адносінаў беларуска-польскіх ёсьць факт існаваньня двух суседніх народаў, дзьвюх дзяржаваў. Гэтыя дзяржавы павінны самі згодна з воляй сваіх народаў выраішыць аб узаемных дачыненьнях. Даўную супольную гісторыю ніхто не забывае, але сяньня пры зьмененых умовах, воля народу павінна вырашаць аб той ці іншай палітыцы. Супольны вораг — Масква, панукае ўсе паняволеныя народы да згоды і да супрацоўніцтва, але ці гэта першы раз у гісторыі? Акт 25 Сакавіка заманіфэставаў раз на заўсёды аб волі беларускага народу, нажаль маладая беларуская рэспубліка ня мела дастаткова сілы для самаабароны, а ейныя суседзі, замест ей дапамагчы, падзялілі яе. Гэта ў галоўным зьмест прамовы сп. Міхалюка.

Прамова сп. Трэмбіцкага адзначалася пачуцьцевасьцю. На некаторыя цьверджаньні яе аўтара нельга згадзіцца, прыкладам, што не было ў прошлым беларускай дзяржавы. Такжа аб вуніі Беларусі з Польшчай можна мець іншыя пагляды, чымся сп. Трэмбіцкі. Слушна аднак ён выказаўся аб пэрыядзе незалежнай Польшчы: ён не згуляў той пазытыўнай ролі ў наладжаньні

беларуска-польскіх адносінаў. Мяжа рыскага дагавору (1921) падзяліла Беларусь, а беларусы сталіся ў сапраўднасьці бяспраўнай меншасьцю.

### ЗМАГАНЬНЕ ЗА ... АБВЁРТКУ

Як ведама анталёгія беларускай паэзіі ў ангельскай мове апрацаваная Верай Рыч мела на сваей абвёртцы гістарычную Пагоню. ЮНЕСКО пад націскам савецкіх прадстаўнікоў дамагаецца ад выдаўцоў анталёгіі зьмены абвёрткі. Рэч зусім нячуваная ў вольным сьвеце: аўтар кніжкі ня можа выбраць да яе паводле свайго густу нават абвёрткі! Ці-ж аднак толькі ў прапагандовым шматку паперы справа? Зусім яно ня так. Саветы выкінуўшы з нашай гэрбалістыкі Пагоню, ня могуць яе сьцярпець. Прыкладам памфлет-брашура В. Мацкевіча: «Выкапні» (Мінск, 1973), дзе аўтар сіліцца высьмеяць Пагоню як на вокладцы так і ў зьмесьце. Тут мы прыпомнім толькі усім ворагам Пагоні верш нашага пясьняра Максіма Багдановіча:

Як толькі у сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,
Успомню Войструю Браму сьвятую
І ваякаў на грозных канях.

Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срыбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўнай Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць...

*Д.*

## *Пішуць да нас*

«Нішто не забыта, ніхто не забыты!»

Гэта быў да нядаўна камуністычны лозунг на Беларусі, калі вылоўлівалі былых паліцыянтаў за часоў нямецкай акупацыі. Былым нямецкім паліцыянтам прыпісывалі нязвычайныя жорсткасьці ў адносінах да цывільнага насельніцтва (напрыклад, Калдычэўскі працэс — вартаўнікоў лягеру Калдычэва). Мы далёкія ад таго, каб браць у абарону кожнага паліцыянта, магчыма былі сярод іх злачынцы, якія заслугоўвалі на кару, але не на кару сьмерці, якая пераважна не тасуецца да злачынцаў у цывілізаваным сьвеце. Але сяньня хочам зьвярнуць увагу на іншы аспэкт.

Згодна з камуністычнай прапагандай партызаны змагаліся за савецкую ўладу супраць немцаў-фашыстаў і іхніх беларускіх памагатых. Ці заўсёды аднак? Вось мінула нядаўна 30 гадоў ад вымардаваных партызанскай бандай сям'і сьв. пам. Тамаша Трызны, ведамага беларускага каталіцкага дзеяча ў Жодзішках. Тамаш Трызна паходзіў са старога беларускага шляхоцкага роду Трызнаў, якія брали актыўны удзел у жыцьці Вялікага Княства Літоўскага. Пазьней род Трызнаў абяднеў, але традыцыі беларускія былі заўсёды вельмі моцныя.

Сьвятой памяці Тамаш Трызна быў ужо з маладых гадоў адданым беларусам. Працуючы як арганісты ў розных мясцовасьцях Смаргоншчыны, ніколі не парываў сувязі з народам. Ён на пачатку 20-х гадоў гэтага стагодзьдзя прымкнуў да беларускага хрысьціянскага дэмакратычнага руху, што узначаліваў Кс. Адам Станкевіч у Вільні і гэтаму руху застаўся верны да сьмерці. Калі на сярэдзіне 20 гадоў гэтага стагодзьдзя зьявіўся ў Жодзішках Кс. Вінцэсь Гадлеўскі, дык ён знайшоў у сьв. пам. Трызьне добрага арганізатага, стойкага беларуса-каталіка і шчырага прыяцеля. Але беларускую каталіцка-душпастырскую дзейнасьць абодвых хутка спыніла палянізацыйная палітыка духоўных уладаў у Вільні. Кс. Гадлеўскі быў пасаджаны на два гады ў Макатоўскую турму (Варшава); а на ягонае месца прысланы быў ксёндз-паляк Чаплоўскі (пасьля расстрэляны немцамі ў Вялейцы). Тамаш Трызна астаўся верны сваім беларускім ідэалам, хоць у сілу тагачасных абставінаў шмат зрабіць ня мог.

У сакавіку 1943 г. партызанская банда пад кіраўніцтвам Д-ча напала ўночы на Жодзішкі. Апрача колькіх паліцыянтаў і прадстаўнікоў Б.Н.С., была вымардавана цэлая сям'я Трызнаў разам з бацькам. Д-ч пасьля вайны ня быў прыцягнуты бальшавікамі да судовай адказнасьці, а быў узнагароджаны мэдалямі за сваю злачынную акцыю — замардаваньне сям'і Трызнаў, віною якіх было толькі тое, што ўсе яны былі сьведамымі беларусамі, а падчас нямецкай акупацыі ўдзелу ніякага (абсалютна ніякага!) у адміністрацыі, паліцыі ці ў бел. школьніцтве не бралі, — праўдападобна за радаю Кс. Адама Станкевіча, з якім сям'я утрымлівала цесную сувязь.

У красавіку таго ж 1943 г. савецкія партызаны напалі ноччу на дом Аксенчыцаў у вёсцы Падлессе каля Будслава, шукаючы сына Уладзімера, які быў паліцыянтам — вартаўніком бровару ў Будславе. Не знайшоўшы сына, пасьля нявераго̄дных мукаў, — выколваньне вачэй, адрэзалі грудзі, — урэшце адабралі жыцьцё маці і 16 гадовай сястрэ.

Удзельнікі падлескай акцыі, т. зв. народныя мсьціўцы, ня былі прыцягнуты да судовай адказнасьці, хоць ня было цяжка даведацца, хто яны. Два прыклады яскрава сьведчаць аб падвойнай савецкай бугальтэрыі ў крымінальнай адказнасьці.

Калі злачынства было зроблена і віноўнікі ведамыя, дык павінен быць і судовы працэс і кара. У выпадку другім ані маці, ані сястра не павінны несьці адказнасьці нават перад бандытамі за дарослага сына і за брата. Але, як мы ведаем, у Савецкім Саюзе ёсьць ня толькі калектыўнасьць кіраўніцтва — ёсьць таксама і калектыўная адказнасьць (паволжскія немцы, крымскія татары, чэчэнцы); а таму і партызанскія савецкія банды дзеілі у духу савецкага права, беспраўна мардуючы матку і сястру Уладзімера Аксенчыца. А калі ідзе пра сям'ю Трызнаў, дык згодна з камуністычным лозунгам: «хто не з намі, той супроць нас!». Тамаш Трызна, беларускі каталіцкі дзеяч, ня быў з камуністамі, хоць антыкамуністычнай дзейнасьці ня вёў ... Чаму-ж усёж-такі загінулі й ягоныя дзеці й жонка?

*Н. Н.*

*Аўстралія — Мэльбурн*

### СЬВЯТА МАЦІ

У нядзелю 13 траўня 1973 г. адбылося ў Беларускім Доме урачыстае Сьвята Маці. Яно было зарганізавана Беларускім Жаночым Згуртаваньнем, з ініцыятывы каторага гэтыя сьвяты адбываюцца ўжо ці каторы год. Сьвяткаваньне адкрыла спадарыня Сьлесарэвіч, Старшыня Згуртаваньня, кароткімі, але прачулянымі словамі пра ролю жанчынаў-матак у сучасным сьвеце, асабліва маткі-беларускі і на эміграцыі і у паняволенай Бацькаўшчыне. З даўжэйшым рэфэратам на тэму дня выступіла сп-ня Эўлялія Яцкевіч, даўгалетняя настаўніца тутэйшай суботняй школы. Сп-ня Яцкевіч затрымалася даўжэй над цяжкім лёсам беларускіх матак у мінулым, над бядой, якую яны — маткі мусілі пераносіць у ваенны час (I і II Сусьветнай вайны), а таксама ў цяжкі пэрыяд сталінскага тэрору. Беларускай матцы прыпала ганаровае, але й цяжкое заданьне захаваць і пераказаць дзецям і ўнукам беларускую мову, звычаі і традыцыі — любасьць да ўсяго роднага. У цяперашні цяжкі час каляніяльнага гнёту на Беларусі беларуская маці зноў змагаецца за тое, каб, ня гледзячы на цяперашнюю русыфікацыю, нашая мова на Беларусі не памёрла! Мы, казала сп-ня Яцкевіч, упэўненыя, што беларуская маці там на Бацькаўшчыне цяпер, як і ў мінулым, выканае годна свой абавязак і перадасьць дзецям і ўнукам пашану да роднага слова.

Ад імя Цэнтральнага Камітэту вітаў Жаноцкае Згуртаваньне і ўсіх матак-беларусак сп. Мікалай Скабей; ад імя Царквы і праў. Беларускага Дому прывітаў прысутных сп. праф. Мікалай Нікан. У мастацкай частцы асабліва адзначыўся сп. Аўген Груша (деклям. вершаў Коласа, Купалы і прысутнага сучаснага паэта Алеся Салаўя); сп-ня Надзя Груша выканала прыгожа солё некалька бел. песень. Выступалі школьныя дзеці пад кіраўн. настаўніцы Э. Яцкевіч. Усё закончылася пачастункам, які зладзіла Жан. Згуртав. Сьвята Маці. — Сёлета гэта адна з калейных беларускіх імпрэзаў апошняга часу ў Мэльбурне.

Жыве Беларусь!

*Прысутны Н. Н.*

---

# „Люцыпар з Бэльзэбубам"

Прасьлед рэлігіі — навачасны — пачаўся разам з расейскай рэвалюцыяй Леніна ў 1917 г. 7-га кастрычніка. Пад прэтэкстам свабоды для народу, камуна пачала крывавы прасьлед рэлігіяў і цэркваў. Аднак гэта яшчэ быў прасьлед палавічны — на «усходнім блёку». Найгоршы час наступіў, калі «заходні блёк» у асобе Гітлера пачаў уціскаць рэлігію на захадзе — ажно тут Люцыпар з Бэльзэбубам увайшлі ў саюз — Сталін з Гітлерам — саюз палітычны і атэістычны.

Гэтыя (1939—40—41) гады трэба назваць аліянсам «чырвона-чорным» камунізму з фашызмам!

*

Пад такім аспэктам будзе ясьней зразумелы прасьлед аднэй выдатнай асобы ў Эўропе, Мадзярскага кардынала Язэпа Міндсэнті. У ім рысуецца абраз Каталіцкага Касьцёла пад ярмом камуны.

Сёлета (1973 г.) кардынал Міндсэнті візытаваў Лёндан і адпраўляў сьв. Літургію па лаціне ў Вэстмінстэрскай катэдры. А тутэйшы кардынал Гінэн гаварыў казань-прамову, — вельмі характэрную і моцную аб «жывым мучаніку», як назваў Язэпа Міндсэнті. Падаём скарочаны тэкст той прамовы ...

— ... Ня буду хваліць кардынала, бо ён жыве і ёсьць між намі. А тое што мы яго бачым, сьведчыць аб прасьледзе рэлігіі у Мадзяршчыне і ў іншых краях усходняй Эўропы.

Пратэсты супраць камуны і яе дыктатуры і супраць праследу рэлігіі сталі цяпер нямодныя... Я аднак буду гаварыць аб праследзе рэлігіі ў Расеі і ў другіх старонах. Я буду гаварыць аб тым, чаго сам кардынал Міндсэнті сказаць ня можа.

Пачалося ад таго..., што ў 1919 годзе маладога сьвятара Язэпа Міндсэнті укінуў у турму тыран Бэля Кугн (падчас першай камуны ў Мадзяршчыне)...

А ў 1939 г. Язэп М. быў арыштаваны праз нямецкіх фашыстаў за ратаваньне жыдоў... — Такім спосабам быў ён ахвярай фашыстаў і камуністаў... гэта доказ, што Міндсэнты сапраўды змагар за свабоду і быў праследаваны праз абедзьве дыктатуры — фашызму і камунізму.

Арцыбіскупа Міндсэнті ізноў арыштавалі расейцы, захопнікі Мадзяршчыны... Пасля паказнога працэсу асудзілі яго на вечную турму: праз сем гадоў трымалі ў адзіночцы... Калі павеяла радаснай вясной свабоды ў 1956 г. быў кардынал звольнены і трыумфальна перавялі яго з турмы ў катэдру...

На жаль, вольнасьць трывала толькі 4 дні... Савецкія танкі яшчэ раз зваліліся на Мадзяршчыну, топчучы маладых змагароў, што стаялі за волю. Пачаўся тэрор. Кардынал пазьбегнуў турмы і сьмерці, найшоўшы ратунак у амэрыканскай амбасадзе...

*

Міма дыялёгу Царквы з марксізмам існуе малая надзея на тое, каб праканаць рэжым камуны — дастаць свабоду рэлігіі. Дзе пануе камуна, там яна не дасьць супакою тым, што прызнаюць Бога і годнасьць чалавека. Так стала ў Мадзяршчыне ў 1956 і тое самае паўтарылася ў Чэха-Славацыі... Так і ўва усходнай Германіі, у Польшчы, у Югаславіі, Румуніі, Баўгарыі і ў краінах Балтыцкіх — у Літве, ў Латвіі і ў Эстоніі: трывае там праслед рэлігіі пры слабенькім пратэсьце Захаду. Самы найгоршы праслед трывае ў Альбаніі, дзе караюць сьмерцяй сьвятароў, якія раздаюць Хлеб Вечнага Жыцьця або маюць адвагу вучыць дзяцей праўдаў Евангелля.

Візыт кардынала Язэпа Міндсэнті ў Лёндане прыпамінае нам хрысьціянскі абавязак, які мы маем у адносінах да церпячых нашых братоў ува ўсходняй Эўропе. Калі арцыбіскупа Стэпінаца, прымаса Югаславіі, выклікалі на суд і ўкінулі ў турму, Тіто сказаў: «Захад хутка пра гэта забудзецца»... Гэта праўда. Захад ня ведае, або ня хоча ведаць, што ў Югаславіі і ў Сав. Саюзе ўзмагаецца ізноў праслед рэлігіі. Няўхільным вынікам акупацыі Балтыцкіх дзяржаваў быў гвалт над Чэха-Славацыяй і на Мадзяршчыне — жорсткі праслед рэлігіі. Аб мадзярах і чэха-славаках не гаворыцца і нічога на захадзе ня робіцца, хоць там народ церпіць уціск. Сьвятаром, манахам далей бароняць і не дапускаюць до Божай працы...

Пакуль кард. Міндсэнті астаецца на выгнаньні, нельга дапусьціць, каб сьвет забыўся, што камуна ёсьць няўхільным ворагам рэлігіі. Весьці дыялёг з марксізмам, якбы школьную задачу, гэта і наіўна і небасьпечна... Мы, якія жывём на волі, ня можам супачыць, пакуль мужчыны і жанчыны ўсялякіх вызнаньняў будуць на Усходзе цярпець прасьлед! Калі бы сусьветны камунізм шчыра хацеў супакою, дык няхай перастане прасьледаваць! Няхай мадзяры запросяць свайго Кардынала-Прымаса вярнуцца дамоў, да людзей, якіх ён ёсьць айцом і героям.

Няхай Бог багаславіць і ўспаможа тых, што церпяць праслед за веру, не зважаючы на коляр іхняе скуры і палітычны настрой.

Няхай Бог багаславіць Мадзяршчыну і мадзярскі народ. Няхай хутка верне ім супакой і вольнасьць!..

Кардынал *Джон Гінан*

---

*К. Т.*

# Чужая старонка — мачыха!

Пехацінец-жаўнер Кастусь, ранены ў грудзі навылет, трапіў у палон да немцаў. Трапілася гэта недалёк Ломжы ў восень 1939 г. Рыжы з жабінымі вачамі немец замахнуўся прыкладам, але спатыкнуўся і прабег міма; а другі, як чалавек, прысеў ля Кастуся і даў яму папіць...

Далей Кастусь ужо нічога ня помніў. Прачхнуўся толькі вечарам у вялікай пуні на сене: было такіх там поўна. Калі-ж у Кастуся зьдзіралі кашулю, дык ад болю сьціснулася сэрца і адляцела памяць: здалося яму, што падыймаецца да неба на высокім вазе — аж пачуў голас, жаласьлівы крык роднай сястры: «Косьцік!..».

Як прыйшоў да памяці, дык часта посьле адзываўся ў душы той выкрык: «Косьцік!..».

У Кенігсбэргу ў шпіталі вучылі Кастуся ламаць язык на нямецкую мову і аж вясною адправілі з іншымі па чыгунцы далёка за лясы ў невялічкі гарадок Штрабінг, а там перадалі немцу на гаспадарскія работы.

Абарваных і сумных пленных выстраілі на плошчы пад голымі ліпамі і кульгавы немец гаркнуў: «Ахтунг, айн, цвай, драй!..».

Кожнаму на грудзях немец напісаў нумар: Кастусь дастаў нумар пяць. Дый пытаў нацыянальнасьць: «Фюнф, полен?».

«Беларус!» адказаў Кастусь.

Немец, пачуўшы канцоўку «рус», так і запісаў Кастуся «рускім» і назваў яго : «Іван-рус», бо ён так і разумеў, што ўсе расейцы — «Іманы»! Колькі Кастусь ня пробаваў тлумачыць немцам іхнюю памылку, нічога не памагло . . .

*

У ліпах, у голых яе галінах, сьвістаў-плакаў вецер. Немец пацягнуўл за каўнер і Кастусь пайшоў за ім. Немец ішоў качкай, як ходзяць таўстыя: Кастусь ішоў жоравам, глядзячы ў шырокі зад і ў чырвоною складку на шыі, але ніхто на іх ня ўглядаўся, хоць гэтых тонкіх-доўгіх-худых было тут мноства. Усе думалі, што худыя былі «Іваны». Толькі адна старэнькая заглянула Кастусю ў вочы, вядучы сабачку на павадку і пажавала губамі. Аднак пазнаў Кастусь, што старэнькая пажалела яго і ён сам успомніў сваю матку . . .

На двары пры чысьценькіх карытах-кармушках папасваліся коні. Панадварак быў чысьценькі — ані саломінкі на ім! Хлопчык падбіраў у савок гной — аж Кастусю стала сьмешна.

Немац адвязаў каня й махнуў Кастусю — «Сядай!» — і выехалі на рыжай сытай кабыле. Пабегла прад імі роўная як стол шаса . . .

Скрозь поле й поле, — канавы абсаджаныя яблынямі, хаткі пад бляхай і чарапіцай. На іхных цэрквах-кірхах з выпаленай гліны вастрэлі крыжыкі ў неба. На фронтах — гадзіннікі вялікай формы, так што можна было за паўкілямэтра бачыць, каторая гадзіна. З шарабанаў (плеценыя каламашкі), едучыя насустрач дзяўчаткі весела гукалі майму немцу. А ён ім адказываў хрыплым голасам, ня выймаючы з зубоў, сваей люлькі.

«Ах, вы, лютры!» сьмяюцца нада мной, — падумаў Кастусь.

Каля невялічкай рэчкі з млыном немец затрымаў кабылку. На шыльдзе бачыўся зайчык з каўбаскай у зубах і стаяла шклянка піва з разьлітай пенай, што паказвала на піўную. Немец кракнуў і падмігнуў Кастусю.

У піўной было пуста, толькі тоўстая гаспадыня, што снавала туды-сюды, перакладала яйкі з аднаго каша ў другі. Немец зара зьеў кусок рыбы і выпіў кубак піва, але й Кастусю падсунуў кусочак рыбы. Кастусь паказаў, што й ён хоча піва, але немец толькі адмахнуўся рукою.

*

Уехалі пад вароты ў пасёлак. Уся пабудова была з дзікага каменя пад аднэй страхою; а з хаты можна было ўваходзіць у хлявы і ў пуню. Кастусь спаў над хлявом. Рана немец лупіў дубінай у столь і крычаў: «Іфан-сальдат, рапота ната!» Дый Кастусь чуў, як у хаце кукушка-гадзіннік хрыпела пяць разоў. Вылазіў Кастусь з каменнага хлява, прадзіраў вочы, а сонка толькі-толькі паказвалася зза горкі, дзе стаяла іхняя царква-кірха. А немец, нібы яму й сну ня было, закасаўшы рукавы кашулі, паблісківаў ружовай лысінай і націскаў у кашэль з пад сечкарні сечку карміць кароў. Немцаў сынок, гарбаты, вельмі напамінаў Квазімоду з повесьці Дюмаса «Сабор парыскай Нотр-Дам». Дык той гарбаты Морыц сядаў на самакат у места Страўбінг па раньнія газэты. Ну, й п'яўка — гэты Морыц! Прывозіў кучу газэтаў, зарабляючы грошы.

Кастусь фыркаў пад кранам халоднай вады й часаўся на сонейку, а старая немка, падобная да качаргі, карміла сьвіней і крывілася на Кастуся, што доўга часаўся: «Сальдат Іфан, ку-ку!».

«О, ўжо ты закукавала! Каровы не паздыхаюць . . .» А іх было восем і ўвесь час стаялі ў хляве. Кастусь думаў: «Праклятая краіна: тут і сонца ўстае раней і вароны каркалі чуць сьвет; дый адразу ўсе ўжо шмыгаюць, якбы чорт іх носіць! Нявестка Тідда даўно выдаіла кароў і выганяе цялят у загародку ля саду. Дачка Лёта вязе малако ў малочную, Старшая Фанэль ужо нарвала радыскі дый салаты і раньніх трускавак на рынак. А на вечар немец грошы зьбірае ў кяшэні . . . Ну, й людзі — яны!

Першыя дні Кастусь хадзіў, як учадзеўшы — трэ было ўсе работы помніць. Зямлі ў немца нямнога, — тэктараў восем: поле гароху, аўса, жыта, канюшыны, ячменю; дый поле кармавых буракоў і яшчэ нейкага не паймеш! Бульба радзіла двойчы ў лета. — Аж сьмяяліся з Кастуся, што хадзіў, разявіўшыся . . . — «Куль-тур!»

Сьмяяўся і Кастусь з іх, — нібыта культура? А гной ляжыць пад вакном. Каровы ў стойлах; а іх трэ' чысьціць каждую раніцу і гной вывозіць тачкай дый валіць на горбу. Мыць вадой падлогу, а яна цэмантовая. Уся жыжка сьцякала ў яму і адтуль пампавалі ў бочкі і палівалі сенажаці — аж тройчы ў год касілі! . .

Праца ад зары-да-зары, — нікому аніякае радасьці, што й чэрці ў пекле так не таўкуцца. І «культура» і страшэнная нуда! — Цялят 18, курэй за сотку, гусей стада, авечак трыццаць з гакам. Дый у горах яшчэ гэтулькі, усялякай птушкі дый індыкоў. Кролікаў соткі тры: з іх начэсвалі пуды шэрсьці-пуху. Нават 5-ці летні Людвічак пёркі зьбіраў па двары: за год назьбіраў на пярыну . . . чысьціць шчоткамі кароў і коней, а пільсьць — у мяшок і . . . на ліха немцу было ўсё гэта? Аж паказваў Кастусю валасаты кулак: «Арбайт-работа!» Зразумела? Немец не дарма, як кажуць, налпу выдумаў — вось вам і будзе — «юбэр-аллес!» А ў сьвяты хадзілі ў піўную і заліваліся півам! . .

# Табіяш — бацька і Табіяш — сын

*Схапіўшы ІЗРАЭЛЬ за грыву,*
*САЛЬМАНАССАР гнаў у НІНІВУ —*
*Тэрорам, гвалтам у н я в о л ю —*
*У самую цяжкую долю!*

*

*— Я — ТАБІЯШ; я жыў шчасьліва —*
*Пабожна, ў працы, справядліва:*
*Я-ж бедным памагаў употай —*
*З ахвотай.*

*Не кланяўся багам фальшывым,*
*Я з Богам жыў, з сваім, праўдзівым:*
*Ахвяры клаў — (няхай Бог прыйме!) —*
*На аўтары, ў Ерусаліме. —*

*Я з пакаленьня нэўталіма:*
*Калі мой род адрокся Бога —*
*Дзеля целяці залатога —*
*Трымаўся я Ерусаліма.*

*Як мне жаніцца прыйшоў час,*
*Як і даўней бывала ў нас,*
*Я жонку выбраў з свайго роду*
*І з пакаленьня і з народу.*

*На шчасьце сын нам нарадзіўся:*
*Наш род і дом наш весяліўся.*
*Яму даў імя ТАБІЯШ,*
*Бо лепшага нідзе нямаш! —*

*І я ў НІНІВУ — з Божай волі —*
*Пайшоў ў палон — у лёс нядолі . . .*

*

*Мае браты Ізраэліты*
*Жылі ў няволі, як прыбіты:*
*Тэрор цяжкі быў, недастатак*
*І сьмерць ганебна наастатак.*

*Я ж гаспадарны так практычна —*
*Аглядна, так эканамічна,*
*Што і ў няволі — у трудным лёсе —*
*Заўсёды штось нам асталося . . .*

*Што меў, нікому не хваліўся,*
*Аднак ніколі ня скупіўся:*
*Сваім людзям і грамадзе*
*Я памагаў у іх бядзе.*

*Трывожныя бывалі весьці:*
*Хоць лягу спаць, ці сяду есьці,*
*Мне кажуць: «Ваш суродзіч дзесьці*
*Ляжыць на вуліцы забіты! . .»*

*Бо гэтак злосныя бандыты*
*Палонных нашых забівалі,*
*А іх затое не каралі! —*
*Я ж, не чакаўшы анімала,*
*Бягу хутчэй туды, бывала,*
*А, колькі часу й сілы маю,*
*Нясу нябошчыка да дому. —*
*Нічога не кажу нікому,*
*А ўночы ў яму закапаю . . .*

*Наступны ўрад — (даў Бог) — памалу*
*З народу зьняў усю апалу! —*

*

*Мы з радасьці абед зрабілі, —*
*Гасьцей прыемных напрасілі. —*
*Як толькі мелі за стол сесьці,*
*Абед той есьці.*

*Кажу я: «Табіяш — сынок,*
*Бяжы на рынак, галубок!*
*Спаткаеш можа бедняка? —*
*Цягні сакрэтна за рукаў —*
*Да нас, сюды,*
*Каб накарміць яго з бяды».*

*Хлапец маланкай паляцеў —*
*Так дагадзіць ён мне хацеў!*
*Улёт вярнуўся вельмі сумны —*
*Казаў: (ён добры быў, разумны!) —*
*«Там ня было ізраэліты,*
*Але адзін ляжыць забіты!»*

*Пытаю я: «. . . а хто, а як?»*
*І дзе ляжыць той небарак?*
*Ён кажа: «Ля вялікай брамкі*
*Ляжыць ля беднай сваей крамкі,*
*Што прадаваў стручкі фасолі,*
*Якназьбіраў на дзікім полі».*

*Ну, так: таму й яго забілі —*
*Тавар і грошы падзялілі.*

*Пакінуў я адразу ўсіх*
*Гасьцей сваіх:*
*Як мог, я ціха, шыта-крыта,*
*Забраў таго ізраэліта,*
*Прынёс дамоў, яго прыкрыў,*
*А ўночы ў яму палажыў. —*
*Зямлёй засыпаў, пахаваў —*
*Так як Майсей нам загадаў.*
*Я з усяго такога гора*

*Вярнуўся дый абмыўся скора. —*
*Я з плачам гаманіў з сабою*

*І хлебам загрызаў з вадою —*
*Ня мог хадзіць — ня то што бегчы.*
*Гатоў памерці, абы легчы! —*

*Так лёг навонкі, пад сьцяною,*
*Як быў з адкрытай галавою*
*І спаў, як мёртвы, як прышыты,*
*Як на вайне жаўнер забіты . . .*

## II. СЬЛЯПЫ

*Быў ранак. Сьвеціць сонца ў вочы:*
*Гляджу, — мне цёмна, як у ночы!*
*«Ах, Божа! Што ўсё гэта значыць,*
*Што не магу нічога ўбачыць?!»*

*Трагічнае такое дзела,*
*Што птушка зьверху, як сядзела,*
*Гарачым гноем, як спусьціла,*
*Навек мне вочы асьляпіла!*

*Хоць сьвежай прамываў вадою*
*І хоць змагаўся сам з сабою,*
*Як пень, сьляпы быў, гэта значыць,*
*Што назат сонца ня мог бачыць!*

*Стаяў на месцы, то круціўся,*
*То галавой у сьцены біўся:*
*Хапаўся за вуглы рукамі,*
*А ногі ўперад беглі самі.*

*Як доктар мазаў мае вочы,*
*Мне дзень цямнейшы стаў ад ночы:*
*Сяджу, малюся, горка плачу,*
*Што сьвету Божага не бачу!*

*Сьляпы! Што мог яшчэ рабіць?*
*Ні працаваць, ні зарабіць. —*
*А сын юнак быў малады,*
*Што мог рабіць супроць бяды?*
*Аж вось бяда, як страшна змора,*
*Расла — аж нарадзілась гора! . .*

*Дык бедна жонка, як магла,*
*Адказнасьць на сябе ўзяла:*
*А мела шмат яшчэ ахвоты*
*Да простай, да цяжкой работы.*

*Дый што ж жанчына? — Бачым самі —*
*Матае голымі рукамі,*
*А галава? — усё ж не тая.*
*Як наша хітрая, мужская.*

*Я ж сам зрабіўся дармаедам*
*І з Божай волі лішнім дзедам —*
*Скрозь да нічога больш нездатным. —*
*Перш працавіты, акуратны, —*
*Цяпер — гультай, зусім няздольны. —*
*Свой час працяглы, пусты, вольны*

*Самому Богу пасьвячаў —*
*Пакутны псальмы я сьпяваў,*
*Бязстыдна шмат і доўга спаў! —*

*

*Аднойчы чую — галасок:*
*То быў маленькі казялок,*
*Што плакаў — сірата — па матцы*
*І па брацяньках і па хатцы.*

*Пытаю жонку: «Скуль у нас*
*Той казялок? І мо' якраз*
*Пакінены — украдзены —*
*Табе выпадкам дадзены?» —*

*Бо наагул у тыя часы*
*Народ быў на чужое ласы:*
*Направа — лева, дзе прапала,*
*Праз дзесяць рук да нас папала . . .*

*Казаў я жонцы: «Лепш аддай*
*Чужы — нястраўны каравай!»*
*А жонка ў жалю закрычала —*
*Залапатала:*

*«Твае малітвы дый ахвяры*
*Мінулі, як пустыя мары —*
*Ні тут, ні ў небе ня ўпісаны —*
*Ні ў Бога, ні ў людзей прызнаны».*

*Я ж слухаў з горкаю трывогай*
*І так маліцца стаў да Бога:*
*«Ах, Божа добры, справядлівы,*
*Ты міласэрны, Ты праўдзівы:*
*Благое й добрае прыймаеш*
*І судзіш нас усіх, як знаеш.*

*Судзі мяне, хоць і сьляпога*
*Бо грэшны прад Табою многа!*
*Мы церпім крыўды, шкоды, зьдзекі —*
*Нявольнікі мы й недарэкі!*

*Як нашыя бацькі грашылі*
*І я і ўсе мы заслужылі*
*На кару: страцілі свабоду —*
*Рабы чужога мы народу.*

*Рассыпаны мы — дзеці Божы —*
*Наўкола скрозь народ варожы:*
*Сынамі сталі мы нядолі, —*
*Дзярэ нам горла хлеб няволі . . .*

*Дай, Божа мне ў зямлю вярнуцца —*
*Зусім разьдзецца і разуцца,*
*А духам вольным прад Табою*
*Знайсьці прыпынак супакою!*

*Мае учынкі няпрызнаны:*
*Я ж абсьмяяны*

*Чужымі ўсімі*
*І нат' сваімі. —*

*Дык што ж яшчэ мяне трымае*
*І што я маю?*
*Красы дый сьвету ўжо не бачу —*
*Аж горка плачу!*
*О, Божа, зжалься нада мною*
*І дай хутчэй мне жыць з Табою!*

### *III. ЗЫСКАЦЬ ДОЎГ*

*Стары — я, сам сабе прызнаўся:*
*«Чаму я паміраць зьбіраўся?*
*Бо грошаў у мяне нямала,*
*Дый толькі памяць бастава́ла. —*
*На сьмерць забыўся, пто пазычыў,*
*Як добры быў у нас абычай,*
*Што трэ' трымаць адну руку. —*
*У Мэдыі Габэлю сваяку*
*Рызыкаваў я ўсім дабром —*
*Талентаў дзесяць серабром . . .*

*Няхай сынок туды загляне —*
*Назад мне грошы хай дастане !*
*Законны доўг, дык будзем жыць,*
*А не тужыць. —*

*Вось Табіяш і кажа сыну:*
*«Паслухай: маю я прычыну —*
*Сакрэт скажу табе ў мамэнце —*
*Таемна, як у тэстамэнце:*

*Паслужыш Богу так уважна,*
*Сур'ёзна, шчыра дый адважна. —*
*Цябе каб людзі нашы зналі,*
*Як трэба, каб і шанавалі.*

*Давай ахвяры, колькі досыць,*
*Тым бедным, хто і не папросіць.*
*Як маеш меней, дай, хоць мала —*
*Лепш, каб табе штосьь бракавала,*

*Чым меў бы ты каму адмовіць,*
*Каб толькі збыць і спустасловіць. —*
*А Бог табе аддасьць за тое*
*У шчасьці, у ласцы — больш удвое.*

*А сын казаў: «Ты знаеш, тата,*
*Што тваё слова — яно сьвята:*
*Я ўсё так споўню, колькі сілы —*
*Аж да магілы!*

*А Табіяш, стары як быў,*
*Табьяша-сына пахваліў*
*І ў дзьве рукі багаславіў.*

*

*СТАРЫ ТАБІЯШ:*
*— Табе трэ ў Мэдыю схадзіць,*
*Бо я, — сьляпы, нам трэба жыць:*
*Мой сябар, Габэль, хоць багаты,*
*Нам добру суму вінаваты —*
*Талентаў дзесяць серабром.*

*Пагардзіўшы такім дабром,*
*Ці ж мы павінны жабраваць? —*
*Маглі́б мы іншым памагаць.*
*Жыцьцё ідзе, гады плывуць,*
*А грошы дарма прападуць. —*

*МАЛАДЫ ТАБІЯШ:*
*— Тата! Не знаю я туды дарогі. —*
*Яшчэ ёсьць іншы засьцярогі:*
*Я Габэля таго не знаю,*
*На доўг дакуманту не маю. —*
*Дарога страшна небасьпечна! —*
*Як дзед, сяджу я ў хаце вечна,*
*Як той Мадзей, —*
*Не знаю сьвету, ні людзей . . . —*

*СТАРЫ:*
*— Аб гэтым думаў я глыбока:*
*Так, край чужы — ісьці далёка*
*І аднаму — без абароны, —*
*Табе патрэбны кампаньёны!*

*МАЛАДЫ:*
*А дзе ж іх браць?*

*СТАРЫ:*
*Сядзець ня будзеш дый чакаць:*
*На рынак зараз сам ідзі*
*Ды між сваімі пагля́дзі:*
*Бог дасьць таварыша — анёла, —*
*Памысна будзе дый вясёла.*
*Паможа ён табе ў бядзе,*
*Паслужыць верна, прывядзе*
*Дамоў, Бог десьць, зусім шчасьліва —*
*Людзям на дзіва!*

### *IV. КАМПАНЬЁН*

*Малодшы ТАБІЯШ пайшоў,*
*Як толькі глянуў, дык знайшоў,*
*Як было бацькам загадана,*
*Адразу — проста нячакана:*
*Стаяў юнак — прыгожы, стройны,*
*Відаць, талковы, багабойны. —*
*Вось Табіяш яго пытае:*
*— Чаго, мой мілы, тут чакаеш? —*

*ЮНАК — ЯМУ:*
*— Шукаю добрае работы —*
*Паводле сілы і ахвоты. —*

*ТАБІЯШ:*

*— Ці мог бы ты, хоць незнаёмы,*
*Пайсьці са мной у кампаньёны?*
*У Мэдыю, у горад Рагу?*
*Каб у дарогі той працягу*
*Ты мне служыў, як абарона,*
*Як праваднік, за кампаньёна. —*
*Мой бацька хоча доўг спагнаці:*
*Табе за службу мы заплацім. —*

*ЮНАК КАЗАЎ:*

*— Што ж? Час я маю,*
*Прытым дарогу добра знаю:*
*Быў я і ў Мэдыі і ў Разе. —*
*Магу, як трэба, ў гэтым разе*
*Табе служыць у кампаньёнах*
*У тых знаёмых мне старонах.*

*ТАБІЯШ:*

*— Чакай, я зьбегаю дамоў,*
*Скажу: — Знайшоў! —*

*СТАРЫ:*

*— А ты чаму вярнуўся хутка? —*

*МАЛАДЫ:*

*Вось адна мінутка.*
*Было вось так:*
*Гляджу — стаіць юнак —*
*Такі прыгожы,*
*Як анёл Божы!*
*Якраз як тата мне казаў,*
*Калі на рынак пасылаў! —*

*СТАРЫ:*

*— Я разьмеру —*
*У гутарцы яго праверу:*
*Наконт анёлаў — асьцярожна,*
*Бо лёгка тут нарвацца можна.*
*Хутчэй ідзі —*
*Яго вядзі! —*
*І Табіяш тут малады,*
*Туды — сюды,*
*І кажа: — Тата,*
*Я маю кандыдата*
*І ён мой друг —*
*Ідзём у двух! —*

*СТАРЫ:*

*— Ты хто такі?*
*Бываюць розны юнакі,*
*Што, у дарогу, як зьбяруцца,*
*Ня ўмеюць і назад вярнуцца. —*

*ЮНАК:*

*— Я — сын Вялікага Ананіяша*
*І ўсім вядома сям'я наша.*
*Завуся я Азарыяш. —*

*Яму гаворыць ТАБІЯШ:*

*— Я вельмі рады, калі так,*
*Бо ты якраз і наш сваяк.*
*Твой бацька й род наш надта важны.*
*Плачу я драхму за дзень кажны.*
*А у канцы, як толькі зможым,*
*Дык мы табе яшчэ дадожым. —*

*АЗАРЫЯШ:*

*— А за такую мне адзнаку,*
*Скажу я вам: «Вялікі ДЗЯКУЙ!»*
*Ня бойцеся — нам Бог паможа. —*

*УСЕ КАЖУЦЬ:*

*— Дай то, Божа! —*

*

*Сабраліся: юнак Азарыяш,*
*А з ім малодшы Табіяш.*
*Да іх сабачка прывязаўся*
*І ўсю дарогу іх трымаўся.*

*Былі ўсе поўныя надзеі,*
*А толькі маці ў той падзеі*
*Так плакала, лямантавала,*
*Якбы ўжо сына пахавала!*

*Дык Табіяш стары гавора:*
*— Пральеш, старая, сьлёзаў мора:*
*Відаць, што Богу ты ня верыш,*
*Бо ўсё сваей дагадкай мерыш. —*

*А матка ў сьлёзах: — Мой сыночак,*
*Мой даражэнькі галубочак,*
*Ці ж я калі цябе убачу? —*
*Дык вось я плачу, горка плачу! —*

*А ты нашто яго пускаеш?*
*Стары, ты розуму не маеш: —*
*Аж у дарожку, сьвет якую*
*І ў небасьпеку вунь такую! —*

*ТАБІЯШ:*

*— О, ня журыся ты, жанчына!*
*Кажу табе — не страціш сына:*
*Я ж прачував ўсё памысна —*
*Прыемна будзе і карысна. —*

*МАТКА:*

*— Дзіця важнейша, чым там грошы!*
*Багацьце — марнасьць і раскошы!*
*Шчасьлівы будзем, хоць і бедны. —*
*Нам толькі сын жывы патрэбны. —*

*ТАБІЯШ:*

*— Усю надзею дый трывогу*
*Даверым Богу:*
*Ад іх адступіць дух варожы,*
*Бо з імі пойдзе анёл Божы. —*

## V. У ДАРОГУ!

*АЗАРЫЯШ І ТАБІЯШ:*

*У Мэдыю ішлі — ішлі,*
*Да Тыгру — да ракі прыйшлі.*
*Азарыяш пакуль зьбіраўся,*
*Дык Табіяш ужо купаўся!*

*Вада спачатку была плытка:*
*Пайшоў глыбей вясёла, прытка.*
*Азарыяш пачуў — хлапец крычыць:*
*— Ах, рыба хоча укусіць! —*

*АЗАРЫЯШ:*

*— Хапай яе і сам ня бойся!*
*Так — так, цягні і супакойся. —*

*Тут Табіяш, як зьмеркаваўся,*
*Ня толькі рыбе не паддаўся, —*
*За жабры як схапіў без страху,*
*На бераг выкінуў з размаху!*

*АЗАРЫЯШ:*

*— Вось мелі мы з табой прыгоду, —*
*Табе зрабіць хацела шкоду: —*
*Затое маем шмат карысьці,*
*Што будзем самі яе грызьці*
*Схавай жоўць, сэрца дый вантробу —*
*Лякарства будзе на хваробу. —*

*ТАБІЯШ:*

*— Калі, каму і ў чым паможа? —*

*АЗАРЫЯШ:*

*— Тады, як будзе воля Божа. —*

*Хлапец падумаў: — Юнак гэты*
*Хавае нейкія сакрэты: —*
*Я мушу сам сабе прызнацца —*
*Мне страшна з ім тут сябравацца! —*

*Паспалі тут дый адпачылі,*
*Як рэшту рыбкі пасалілі.*
*Пайшлі далей тым добрым часам*
*І з новай сілай і з запасам.*

*

*АЗАРЫЯШ:*

*— Прыйшлі мы ў горад Экбатану.*
*Яго я знаю — толькі гляну ў*
*Тут Рагуэль — ён вам сваяк,*
*Але — няшчасны небарак!*

*Дачка ўсё замуж ня выходзіць,*
*Бо ёй ганебны вораг шкодзіць. —*
*Усё ў парадку — ўнутры, звонку —*
*Табе Бог дасьць яе за жонку! —*

*ТАБІЯШ:*

*— Што кажаш ты і дзе прычына? —*
*Ніяк мне гэта — немагчыма!*
*Загадка ў тым і страшна дзела,*
*Бо сем мужоў яна ўжо мела*
*І з таямнічай нейкай моцы*
*Ячы ўміралі першай ночы!*
*А я у бацькі — сам адзін —*
*Апошні ў нашым родзе сын, —*
*Дык нельга мне рызыкаваць —*
*На верну сьмерць сябе даваць!*

*АЗАРЫЯШ:*

*— Тут справа важна —*
*Ня будзе гэтак інша кажна:*
*У вашых сем'ях так выходзе —*
*Яна і ты — апошні ў родзе,*
*Дык значыць і з законам згодна,*
*Што вам жаніцца неабходна!*
*І Рагуэль і ўся сям'я*
*І Сара (будзе ўжо твая!) —*
*Яны сапраўды — людзі Божы*
*І ўвесь парадак тут прыгожы:*
*Жаніцца, значыць, розум кажа*
*І права і закон вас зьвяжа . . .*

*Сямі мужоў сьмерць надта сумна,*
*Дый пачыналі неразумна:*
*Яны багацьця тут шукалі*
*І ў шчасьці Бога забывалі. —*
*Меў «Асмадэй» над імі сілу*
*І пачарод гнаў у магілу.*

*Ты ж абаронішся ад гробу,*
*Як сэрца рыбы і вантробу*
*Паложыш на вуглі, адчадзіш —*
*Сябе і хату ўсю абкадзіш. —*
*Ты сам і Сара з усей моцы*
*Маліцца будзеш серад ночы, —*
*Дык злосны д'ябал з тэй прыгоды*
*Ад вас адступіць на заўсёды! —*
*Як прыйдзем мы да Рагуэля,*
*Ім сьмела скажам аб вяселлі.*

*

*Іх міла Рагуэль прыняў*
*Дый Табіяша абыймаў:*
*Іх пасадзілі, угасьцілі*
*І гаварылі — гаманілі! . .*

*

*Аднак тымчасам Сара міла,*
*Хоць сем мужоў перамяніла*
*А хоць ні ў чым нявінавата,*
*Была няшчасьцямі багата.*

*Быў перш стары, другі гарбаты;*
*Пасьля крывы, а дальш — зіркаты,*
*Адзін — з усіх найбагацейшы,*
*Апошні быў наймаладзейшы.*

*Усіх аплакала, як трэба, —*
*Казала: «Дай ім, Божа, неба! —*
*Адзін ёй вельмі ўпаў у вока*
*І ў сэрца так пранік глыбока,*
*Што, хоць нікому не сказала,*
*А надта моцна шкадавала!*

*Які з іх больш ёй спадабаўся,*
*Ніхто аб згоду ня пытаўся. —*
*Такая бо дзявоча доля —*
*Рашала ўсё айцоўска воля.*
*На ўсіх з той банды ці з народу*
*Давала Сара сваю згоду:*
*Такі парадак беспярэчны*
*У Ізраэлі быў адвечны.*

*Аж здарылась ёй неспадзеўка,*
*Што ў наглай злосьці служка-дзеўка*
*На Сару горда як крычала,*
*Нарэшце горда так казала:*
*«Усе мы знаем, як ты чмуціш,*
*Што жаніхоў таёмна труціш . . .».*

*А Сара гэта, як пачула,*
*Спакойна больш і не заснула. —*
*Малілася так горка з плачам*
*І так настойлва, гарача,*
*Што часам анёл з неба сходзіў*
*І ейны сум і жаль лагодзіў.*
*Казала: — Божа справядлівы,*
*Будзь мне няшчаснай літасьцівы!*
*Хоць не жадаеш маей сьмерці,*
*Дай мне, хоць зараз, лепш памерці.*
*Няшчасьце дзеецца са мною,*
*Аднак я чыста прад Табою:*
*Я знаю, ў сьвеце творыш дзівы,*
*О, Божа, будзь мне міласьцівы! —*
*Так па малітве спакайнела —*
*Адвагі й сілы болей мела . . .*

(Д. Б.)

## Прыказкі і прымаўкі

Арлу з савою не па дарозе.

Асіна чырванее, дзяцюк шалее.

Асот, крапіва, — то чортава ярына, а жыта і пшаніца, — Богава пашніца.

Астрог і бальніца чалавека не красяць.

Атаўка сену прыбаўка, ня ўмеў скасіць Саўка.

А ў нашай Польшчы кожны хоча быць большы.

«А ў садзе, а ў садзе мужык сала пёк-пёк-пёк, круціў-круціў, тыррр, сала кап-кап-кусь! . . » (Сьпеў салаўя).

Ах, я і забыўся, што ажаніўся: падай, жонка, піць!

Ашмянскі шлахціц: адна нага ў боце, а другая ў лапці.

А што, хіба мая сука — не сабака — хвастом ня віляе?

Ашчаджаўся-ашчаджаўся, — хлеб зьеў, а квас астаўся . . .

Баба варажыла, пакуль галавою налажыла.

Баба з калёс, — калёсы як чорт панёс!

Баба тады пышна, як замуж вышла.

Багат, калі нікому ня вінават.

Балазе таму жыць, чыя бабка ўмее варажыць.

Баліць нага, дый ня ведаю каторая?

Бацька зьбіраў войкаючы, а сын распусьціў гойкаючы.

Бацькі дзецям неба прыхілілі б, каб здужалі.

Бачыш, куме, як гарую: з аднае карчмы ў другую?

Баязьліваму адзін пень за тры ваўкі здаецца.

Без гаспадара гумно плача, а без гаспадыні — хата.

Без надзеі на Бога, людзі — не памога.

Без пастуха ў стаду няма ладу.

Без языка і звон нямы.

Бог з людзьмі робіць ігрыска: аднаго ў гару, а другога нізка.

## Што чуваць на сьвеце?

ТРАГЕДЫЯ:

*Раз савецкі «Тупалёў»*
*Як арол у хмары йшоў:*
*На такое слаўна дзела*
*Уся публіка глядзела, —*
*Ажно раптам, так як камень,*
*Паляцеў у дол на аман!*

*Так і ўсё жыцьцё людзкое,*
*Ці ж прад Богам — не слабое?*
*Не кладзі усей надзеі*
*На бязбожныя падзеі!*
*Чым вышэй ты узьнясешся,*
*Тым шыбчэй, брат, разаб'ешся . . .*

НІКСОН І ДАЛЯР:

*Ніксон хацеў бы нешта значыць —*
*У ног сваіх сьвет цэлы бачыць —*
*Аж у Кангрэсе і ў Палаце*
*Знайшлі шмат дзюраў ў Белай Хаце!*

*На цэлым сьвеце стогнуць людзі:*
*«А, што ж з далярам мілым будзе?»*
*Бо вунь на самым Ўсходзе Сонца*
*Хістаюць сьветам крозь японцы...*

НОВЫ «КАЛЮМБ»...

*Бяжыць маланкай ЛЕАНІД,*
*Як той цыган, як мокры жыд! —*
*З Масквы пасьпешна так ляціць,*
*Каб Новы Сьвет хутчэй адкрыць...*

*Так Хрушч Амэрыку «дагнаў»,*
*Аднак ён хвігу там дастаў!*
*Ці што дастане сам БРЭЖНЁЎ —*
*Ад багачоў і ад жыдоў?*

*У Леаніда сэрца б'ецца,*
*Ці ўся імпрэза павядзецца?*
*Так хоча шчыра ўсіх надуць,*
*Але «пазычку ці дадуць?» —*
*Там у Нью Ёрку, у Мангаттэн,*
*Банкіры на ўвесь сьвет багаты...*

*На біржы грае: карты дрэнны,*
*Але настрой яго ваенны:*
*БРЭЖНЁЎ сьмяецца, грошаў просіць,*
*А посьле страшыць-жартаў досыць:*
*«Калі ня пройдзе нумар гэты,*
*Пушчу на вас усе ракеты!!!»*

«ЯК ПА МАСЬЛЕ...»

*БРЭЖНЁЎ хваліў: «Француз — харошы!*
*Маскве даў масла так — бяз грошаў...».*
*Масква ад радасьці аж млела:*
*Пасьля плаціла, як хацела...*

*І немец — друг, але благі:*
*Пачаў з Масквой рабіць таргі,*
*Дык справа скончылась нічым —*
*Пілі барыш каўшом пустым!..*

ПЭКІН — АТОМ, МАСКВА й ЖЫДЫ —
АНІ СЮДЫ, АНІ ТУДЫ!

*I.*
*ПЭКІН цяпер набраў аскомы —*
*І ён паверыў у атомы!*
*У Бога ён зусім ня верыць:*
*Атомы доўгай цяпкай мерыць. —*
*Хваліўся ён (такі худыш!) —*
*«Маскву загонім у камыш!»*
*Масква ў трывозе — аж дрыжыць! —*
*— Ах, што рабіць? Ах, як тут жыць?» —*

*II.*
*БРЭЖНЁЎ здурэў, ці розум мае? —*
*Чаму жыдоў ня выпускае?...*
*Так фараон тапіў жыдоў*
*І ў моры сам на дно пайшоў! —*
*Так Гітлер іх у печах грэў*
*І сам ён у вагні згарэў... —*
*«Ня лезь, сам-дурань, у бяду, —*
*Ані ў вагонь, ані ў ваду!»*

ЗБРАЕНЬНЕ ЦІ ГОЛАД?

*Крычаць у радыё, ў газэце:*
*«Даляры гінуць на ўсім сьвеце!»*
*Хістаюцца наскрозь валюты,*
*Як голы п'яніца, разуты.*
*Міністры ўсе не маюць шансаў*
*Знайсьці ратунак для фінансаў!*
*НІКСОН, БРЭЖНЁЎ ажно пацеюць —*
*Галоўкі іхнія сівеюць... —*
*Аб чым турбуе іх сумленьне? —*
*Не маюць грошаў на ЗБРАЕНЬНЕ!*

*

*Рыхтуюць танкі, самалёты,*
*Ракеты, бомбы, агнямёты, —*
*Каб зьнішчыць ўсё жыцьцё на сьвеце —*
*На нашай міленькай плянэце! —*
*Масква, Пэкін і Вашынгтон —*
*Бяруць такі высокі тон —*
*Сьпявае іхняе сумленьне:*
*«Давайце ГРОШЫ на ЗБРАЕНЬНЕ!*

*

*І ПОМПІДУ нос доўгі садзіць —*
*Скупым французам добра радзіць:*
*«Дагнаць атомныя дзяржавы —*
*Дабыць больш сілы, болей славы!»*
*Аўстраль, Зэляндыю настрашыць —*
*Сьвет падпаліць, (хто посьле згасіць?) —*
*«Француз, трасі свае кяшэні, —*
*Дай болей франкаў на ЗБРАЕНЬНЕ!»*

*

*Затруты рэкі і вазёры,*
*Зямля і моры — страшна хворы,*
*Ад сушы йдуць няураджаі —*
*Сусьветны ГОЛАД пагражае!*
*Чаму пануе з году-ў-год*
*На добрых землях недарод? —*

*Так «Анёл Съмерці» ўсюды бродзіць,*
*Зямля дрыжыць — пад намі ходзіць;*
*Пажараў шмат, другіх няшчасьцяў*
*І войнаў, бунтаў і напасьцяў . . .*
*Сьвет згінуць мусіць, недаеўшы,*
*Ці ў ЗБРАЕНЬНІ ЗВАР'ЯЦЕЎШЫ! . .*
*Патрэбны грошы, дзе іх браць?*
*О, трэба цяжка працаваць!*
*А выдаваць іх — (чэсна слова!) —*
*Разумна трэба дый талкова . . .*
*Так працаваў, так жыў Хрыстос:*
*Цяжкі свой крыж за нас панёс.*
*Ад ЦЭРКВАЎ — апэль да сумленьня:*
*«Ня даць больш грошаў на*
*ЗБРАЕНЬНЕ!»*

*

*Сьвет — малады, мы хочам жыць:*
*ГРОШЫ — на ХЛЕБ! —*
*На што грашыць? . .*

## ДАЛЯР І ФУНТ

*Ніксон стаў вольным са шпіталя:*
*Хвароба так сышла, як хваля . . .*
*Але даляр ляжыць сьмяртэльна —*
*Аж наракае сьвет пякельна!*
*«Каб не памёр?», бядуюць людзі:*
*«Што-ж гэта будзе?»*
*Залёг даляр на ўсе сто цэнтаў —*
*Няма працэнтаў! . .*
*А фунт паплыў у цёмну поўнач*
*Даляру беднаму на помач.*
*Гайдаюцца ў бурным моры,*
*Як два браты ў супольным горы:*
*Аб іх не дбае Пампіду,*
*Хоць бачыць страшную бяду!*

*

*Мужы і жонкі строяць сцэны —*
*Лятуць у верх нагамі цэны, —*
*І мяса, кава — ўсе прадукты,*
*Бісквіты і ўсе іншы фрукты . . .*
*Трэ' страйк рабіць; а невядома,*
*Каб не астацца вечна дома? —*

*

*Швайцарцы пхаюць франкі ў банкі, —*
*О, шмат там банкаў для тых франкаў!*
*Усё іх гора ад багацьця,*
*А хто-ж іх мог-бы ратаваці?*
*Няма ўжо месца грошы скласьці,*
*Няма зладзеяў, каб пакрасьці . . .*

*

*А толькі Брандт набраў, як скварак,*
*І доўгіх і кароткіх марак,*
*Дый адчыніў у банках шпунты,*
*Каб ратаваць даляры й фунты!*
*Брандт мае волю дый ахвоту*
*Паправіць Гітлера работу.*
*А Гіт, чым болей фунт свой смажыць,*
*Тым меней бедны фунцік важыць! . .*
*Вільсон паўзе да Маркса ў службу*
*І да Брэжнёва лезе ў дружбу.*
*Брэжнёў з Ніксонам, як танцуе,*
*Якраз ён Сталіна малпуе . . .*

*

*Кіпіць на біржах смачна каша —*
*Камэдыя такая наша!*

Л. В.

---

*Язэп Гэрмановіч*

# І. Учора—сягодня—заўтра

(Успаміны)

*«Не радзіся красны, а радзіся шчасны!»*
(Прыказка)

Трэба падумаць і сказаць: «Шчасьлівыя дзеці, якія нарадзіліся і ўзрасталі ў нармальным жыцьці; якія ў радасьці і ў суме маглі прытуліцца да маткі і да бацькі. А расьлі між другімі дзецьмі — сваімі братамі й сёстрамі, а пртым ў сваей хаце! . .». Так, яны ад малога прывыкалі і памагалі ў гаспадарскай хаце і ў працы.

Такім пагодным жыцьцём цешыўся і я: сапраўды, нарадзіўся я, як гаворыцца, «на лоне сям'і» і быў сярэднім між сястрой і брацікам. Бацькі чакалі майго нараджэньня — угадвалі, што будзе сын, а зараз і прынялі ў сям'ю з радасьцяй і надзеяй, як шустрага, бязьмерна вясёлага, здаровага і . . . хто з малых ня быў прыгожым? Асабліва матка думала, што я — «найпрыгажэйшы з усяго сьвету»!

Праўда, я нарадзіўся яшчэ ў чужой, нанятай хаце — на Трабскай вуліцы, ля берагу рэчкі Гальшанкі. Але была надзея, што бацька, як дасужы майстар, заробіць досыць грошаў — пабу-

дуе ўласны дом; а матка ўладзіць там свой гарод і сад! . .

Прышласьць рысавалася прыгожая і ў поўным дастатку, бо мой бацька быў чалавек бывалы і паступовы. Перад вясёллем прыехаў з Пецярбургу, дзе быў майстрам у экіпажнай майстэрні.

Матка была дзейная жанчына, — найлепшая жнея ў суседзтве, хоць мы тут свайго загону й ня мелі. Прытым мая матка, Ганна з Савіцкіх, у сваей хаце прайшла добрую «школу» жыцьця: была яна першай дачкой у свайго бацькі, Францісся Савіцкага, які стаўся удаўцом; а пахаваная жонка пакінула яму трох дзяўчынак, — Ганульку, якая была пасьля маей маткай, Антаніну (пасьля была маей цёткай) і Марыльку, якая зараз памярла. Тады Францісь Савіцкі (мой будучы дзед), ня меў іншае рады, як хутка ажаніцца і даць дзьвум дачушкам новую матку — па праўдзе — мачаху! Ганулька мела ўжо 6 гадкоў, а Антолька — 4-ры. Гэтая маладая дзедава жонка, Анеля з Жукоўскіх (ведама, ня родная матка для ня родных дачок), хоць заўсёды называлі маткай, стала такой шчырай і сардэчнай маткай, што дай, Божа, усім такое шчасьце! У літаратуры і традыцыі паказваецца, што доля дзяцей пад матчыхай ня бывае руховай і ўспаміны астаюцца самыя цяжкія, а часта трагічныя. Аднак я ня помню ні аднае скаргі на матчыху ні з боку маей маткі, ані цёткі; а сапраўдная прыязьнь і любоў між імі трывала да самай яе сьмерці!

Трэба прытым выясьніць, чаму гаварылася, што Ганулька Савіцкая вынесла з дому «добрую школу жыцьця»? Як я заўсёды бачыў, мая матка была ува ўсялякай працы самай лепшай работніцай: і я сам і другія людзі любілі глядзець, як матка прыгожа працуе: складна, хутка й чыста! За што бралася, дык усё з яе рук выходзіла найлепшае — ажно наўкола гаспадары любілі заклікаць маю матку на помач, бо і другія з ёй працавалі ахвятней і выдатней. Тымбольш, што матка была з натуры чэсная, справядлівая, спагадлівая і ўважлівая для другіх. Ня любіла выражнівацца, ні апераджаць іншых, каб ня прычыніць дысгонару ці прыкрасьці. Калі суседкі пачыналі абмовы, крытыку ці нараканьне, дык матка, як і бабуля, нязначна, бывала, перавядуць размову на другое, так што абмова ці плёткі перарвуцца, а пагода і згодлівасьць увойдзе ў стурбаваныя душы.

Каб я жыў.. у гэтых паважных жанчынаў не бачылася нічога зараня надуманнага, ані нават неразумнай баязьні грахоў: яны проста з натуры былі добрымі людзьмі. Не магу прыпомніць ні аднаго выпадку, каб яны мелі злосьць, заўзятасьць ці антыпатыю да каго-небудзь; а нават выразную крыўду неяк незаўважна прапускалі міма й не гаманілі пра яе!

Дык мусіць таму, калі ў 1918 годзе мая матка памярла падчас маей няпрысутнасьці (я сам быў тады аддалены і дзеля цяжкай хваробы ня мог прыехаць), дык матку хавалі без мяне. Але ўжо з расказаў я зразумеў і з фото бачыў, што на пахаваньне сабралася маса народу, хоць матка была простай жанчынай і нічым асаблівa не адзначалася . . .

*

Пра дзеда Францісся Савіцкага я мусеў-бы сказаць больш, бо ён варты добрых успамінаў. Аднак не магу яго апісаць дакладна, бо я астаўся ад яго 4-х гадоў, дык толькі помню тое, што мы прышлі з сястрой да яго разьвітацца. Помню — ён ляжаў на ложку, але падняўся на ложы, сядзеў, нешта гаварыў; пасьля нас абымаў і багаславіў. Гэты адзін факт, што я помню з тых гадоў: я тады быў сумны, прачуваў нешта значнае, але не даваў сабе справы й не разумеў павагі мамэнту. Затое пасьля я чуў ад другіх нямала пра гэтага слаўнага чалавека: быў ён добрым гаспадаром і ўмеў выхоўваць дзяцей дый трымаць сям'ю ў належнай дысцыпліне й парадку. Меў усяго 14 дзяцей і дагадаваў усіх, апрача дваіх, што памярлі малымі. Усіх сыноў вучыў у народнай школцы, а двух старшых паслаў у уездную школу ў гор. Ашмяну. Аднак спаткала яго няўдача й яны ня скончылі той школы. Тады старшага Антона паслалі ў Амэрыку, а другога ў гор. Севастопаль на работы.

Савіцкія адзначаліся пабожнасьцяй і таксама кіравалі дзяцей. Ніколі не прапускалі набажэнства ў касьцеле, балазе было да касьцёла зусім блізка: сам Францісь сьпяваў пры сьвятару суплікацыю, а хлапцы прыслужывалі міністрантамі Адным словам, бацьку вялікай сям'і ўсё мястэчка называла «патрыярхам». Быў ён добрым дарадчыкам у кожнай патрэбе і даваў помач у недастачах суседзям.

На вялікі жаль, дзед ня змог дагадаваць усей сям'і: толькі адну дачку Ганну выдаў замуж за прыезднага Станіслава Гэрмановіча. Другая, Антоля, не хацела выходзіць, хоць была красуня, замуж, дый ахвотна выехала ў г. Вільню на службу, каб мець аказію бываць у касьцеле: яна адзначалася выдатнай пабожнасьцяй, працавітасьцяй і чэснасьцяй. Мела ў Вільні сталую службу ў паважных людзей і дажыла да глыбокіх гадоў — аж памярла ў часе II-ой вайны.

Як паміраў Францісь Савіцкі, мой дзед, дык пакінуў дома вялікую сям'ю; наймолодшы сынок тады нарадзіўся, як бацька паміраў: яшчэ пасьпеў яго багаславіць, будучы прытомным. Такім спосабам малы Франачка быў на 4 гады малодшым ад мяне, хоць лічыўся маім дзядзькам; а Гэленка была на 2 гады малодшая і была маей цёткай. Яшчэ яна недзе й цяпер жыве ў

Амэрыцы, як старая ўдава — Галена Ляшчэвічыха.

Ад самага пачатку жыцьця маей маткі з ейным бацькам Францісём Савіцкім здарылася труднасьць, што першая дзедава жонка, пакінуўшы трох дачушак, памярла.

*

Як дзед ажаніўся, хутка чакаў, што новая жонка народзіць яму сына — аж так ім і сталася: не прайшоў год, як сынок нарадзіўся й далі яму імя Антось. Радасьці ня было меры, ні вагі — аж захацелі паказаць радні: паехалі ў госьці! Але маладая, непрактычная жонка так з вялізарнае любові закутала сваё малое, што, прыехаўшы і раскрыўшы, знайшлі, што ў ім няма й духу! Як ні хухалі обое, так і хутка вярнуліся ў Гальшаны з няжывым... Плакалі ўсей сілай і бацькі і абедзьве сястрычкі, Ганна і Антолька — аж прычтывалі над мёртвай калыскай!

З таго страшэннага гора ня было ніякага лепшага выйсьця, як зараз трэба было адрадзіць лютую страту наступным сыночкам, якому затое далі паўторнае імя Антось, — гэта сталася ў рэкордным часе ў памяць памёршага! Тады жонка набрала практыкі і нарадзіла ўсяго 8 сынкоў і тры дачушкі!.. — аж да самай сьмерці мужа.

Дый Анеля з Жукоўскіх Савіцкая ўмела ня толькі радзіць, але й гадаваць дзяцей дый хадзіць за гаспадаркай: у тыя часы дзеці пам іралі вельмі часта; а ў Савіцкай былі здаровыя, чырвоныя на твары, заўсёды сытыя і здаволеныявясёлыя, а дружныя да працы, апрача аднаго, які быў гультаём з прафэсіі, што й празывалі яго імянем ведамага ў Гальшанах «Тамаша Балтушкі»! Аднак вось цікавая спасьцярога, што ў Амэрыцы гэты Тамаш Балтушка» дастаў найлепшую і самую разумную жонку з усіх сыноў майго дзеда!..

Памёр Францісь Савіцкі ў 1894 г., калі Ганна, старшая дачка, была ўжо замужам ад 1887 г. за Ст. Гэрмановічам і ад 1892 г. асталася удавою, маючы трое маленькіх дзяцей (Людвіню каля 4-х гадоў, Язэпа 2-х гадоў — гэта Я! — і малога Станіслава, які хутка памёр).

Практычна бабуля мая, Анеля Савіцкая, маей маткі матчыха, не хацела дапусьціць да падзелу гаспадаркі, бо мелі толькі паўвалокі зямлі, дык накіравала дзяцей пасьля сьмерці мужа паступова на Амэрыку. Найбольш старшы, Антон, выехаў і ўладзіўся ў Нью Ёрку — ў Брукліне — краўцом. Зарабіў грошаў і выпісаў 2-га, Язэпа, прыслаўшы яму шыф-карту, дый і яго прыбраў да сябе на краўца, але з варункам, каб выплаціў выдаткі за дарогу. Дык гэтак ужо ішло з другімі — аж сабралася ў Брукліне 5 братоў Савіцкіх і дзьве сястры, якія адны другім памагалі, але тыя мусілі сплачываць старшым расходы дарогі. Нарэшце забралі да сябе й старую матку, Анелю з Жукоўскіх Савіцкую. Гэтую прыняў самы старшы сын, Антон, на нянька для дзяцей. Там яна і памёрла ў належным веку жыцьця.

Савіцкія жылі дружна: сьвяткавалі адны ў другіх памятныя дні — а рэха даходзіла да нашых Гальшан, дзе й гаварылі, што «ля Нью-Ёрку ёсьць вялікая вёска, што называецца Бруклін: там жыве найбольш гальшанскіх, а сярод іх найбольш Савіцкіх!..»

У Гальшанах асталася адна з дачок Францісся, Марыля, замужам за Антонам Трэцяком, вельмі добрым чалавекам. Але лёс іхны не злажыўся шчасьліва: дзеці пам ірал і адно за другім, здаецца сямёра Гадаваліся пры мне, як мы ў іх пражывалі, і былі нязвычайна сымпатычныя; але нейкае няшчасьце ішло за імі ў сьлед, аж асталася Марыля ўдавою з адным сыночкам, насьледнікам, які таксама памёр малым!..

З іншых наступнікаў у родзе Савіцкіх разьляцеліся ўсе: і вайна разагнала і другія прычыны злажыліся. — Так слава старога «патрыярха» Францісся Савіцкага пакрысе меркла — ажно і згасла зусім, бо, здаецца, у калгасы ў Гальшанах з гэтага слаўнага роду не трапіў аніхто!..

А ў Амэрыцы «лаві вецер у полі»! Як я прыехаў у 1960 г. ў Нью-Ёрк і ў Бруклін, дык жыў яшчэ мой малодшы дзядзька Францісь, сын Францісся, майго дзеда. Гэты Францісь 2-гі, малодшы ад мяне, ня быў жанаты і памёр ад старасьці кавалерам. Яшчэ я знайшоў жывым старшага дзядзьку, Міхала. А з іхнымі патомкамі я ня ўмеў па ангельску згаварыцца...

# II. Мы — сіроты

*Сірата: «Беспрытульны, бездаглядны, Каму будзе ладны?»*

Мястэчка Гальшаны — гэта мая найбліжэйшая радзіма, з якой я зросься ад малога, якое я палюбіў аж да сяньня — такое прыгожае з сваей рэчкай Гальшанкай (яна і Жытянка), з сваей гарою ў дзьвюх вёрстах — даўнейшай крэпасьцяй — Гарадзішчам, з сваім замкам на канцы Замковай (Вішнеўскай) вуліцы і з сваімі трымя млынамі... Бо мястэчка цягнулася ўздоўж рэчкі, толькі перарэзана накрыж вуліцамі (караткімі), Трабскай і Барунскай; а доўгія — Ашмянская і Замковая — канчаліся двумя млынамі дый Трабская мела млын пасярод. Само мястэчка ляжала ў даліне рэчкі: паўночны бок і паў-

дзённы былі узвышшам з групы так называнага Ашмянскага гарба, дык сапраўды рэльеф узгоркаў, раздзеленых ракою, даваў малюнкі жывыя і яркія, аздобленыя лясамі й пералескамі, хмызьнякамі і зарасьлямі... Тут было дзе гуляць і хавацца, пераклікацца і сьпяваць, пасьвіць быдла дый хадзіць па грыбы. Нават самыя назвы месцаў прыпамінаюць ажыўлянае палажэньне Гальшанаў, як «Горкі» — сасновы лес і магільнік, Вапніца, Крывуля, Гарадзішча, Клін, Сьценка і г. д. Затое назвы вёсак наводзілі на нешта старое й забытае, як Чуркі, Карабы, Каранды, Рамейкішкі, Вашнарышкі, Слабада... Назвы гарадоў і мястэчак напаміналі нешта ў памяці цалкам страчанае, як Ашмяна, Смаргоні, Крэга, Баруны, Солы, Трабы, Жупраны...

Сэмыя мае Гальшаны — гэта слаўны калісьці ўмацаваны і агарсджаны крэпасны пункт-горад князеў Гольшаў, з якіх Зося Гальшанская была апошняй жонкай караля Ягелы, а з іх і роду Ягелёнаў. Пасьля Гальшаны падпалі пад князёў Сапегаў, далей пад паноў Корсакаў і нарэшце трапілі ў сям'ю генэрала рас. Гарбанёва, які яшчэ за маей памяці разьбіваў апошнюю з 4-х вежаў замковых, а замковы касьцёл абярнуў на склад дроваў. Павал Сапега пабудаваў цудоўны рэнэсансовы касьцёл у 1618 годзе. У нейкім часе Сапегі сталі кальвіністамі і касьцёл зрабілі кальвінскім зборам. Дый ізноў разам з Сапегамі касьцёл вярнуўся да каталікоў. Помню добра нагробак князя Паўла Сапегі з трымя жонкамі: князь — магутны рыцар у зброі, першая жанка — вялікага росту, другая меншая, а трэцяя — значна меншая. Гэтая група цікавіла ўсіх турыстаў сваім выдатным мастацтвам. Перажылі фігуры Сапегаў розныя гістарычныя падзеі, войны і напасьці і дзьве вялікія Сусьветныя войны, — аставаліся непашкоджаныя. Але падзеі эпохі атэізму і калгасаў не пашчадзілі ні гістарычных, ні рэлігійных памяткаў, ані мастацкіх памятнікаў: касьцёл абернены на склад дроваў: вокны павыбіваныя, — так пайшлі дзеіць новыя «культурнікі» ў сьлед генэрала Гарбанёва!.. Што дзеіцца з быўшым францішканскім кляштарам, мне ня ведама.

*

Мы з сястрой асталіся ў маткі сіротамі, як бацька ў 1892 г. мяне пакінуў двух гадовым. Пра той пэрыяд я нічога не магу ўспомніць, бо яшчэ лішне быў малым. Найдзіўнейшая і страшная прыгода здарылася са мною, калі меў год — яшчэ пры жыцьці бацькі. Мяне пакінулі на даўнейшай высокай цэглянай печы й мы сядзелі з Людвіняй: ну, яна была апякункай, бо мела аж два гады з палавінай! Але я, як «мужчына», не хацеў сястры, як «бабы», слухаць, і папоўз на бераг печкі, хоць сястра й сварылася: «Ня лезь, бо...» Дык і зваліўся, а галавой стукнуў у ляжанку: расквасіў галаву так, што й цяпер магу ашчупаць добры равок ад чала ў глыб... Які быў вынік і небясьпека, можна судзіць з тато, што я перастаў хадзіць на цэлага паўгоду! Аднак, як бачыце мяне, дзякуй Богу, ацалеў і мусіць з таго ўпадку аставаўся нейкі зьігзакаваты ў мяне розум... (Толькі-ж, прачытаўшы гэта, нікому пра тое не кажыце!).

Першыя два гады пасьля сьмерці бацькі зусім зацёрліся ў маей памяці, хоць і ўспаміналоцца абломкі ўспамінаў з жыцьця нашых родных, як Дубіцкія і Савіцкія або суседзяў Жызьнеўскіх. На вялікае дзіва, я нічога не магу сказаць пра сваю матку і сястру: здаецца, што я з імі зусім не спатыкаўся, хоць яны напэўна жылі ў Гальшанах і мяне не адракаліся! Аднак-жа заўснавала нешта-нейкае, што матка Ганна і сястра Людвіня чамусьці зьніклі з майго гарызонту? Цяпер, добра разважыўшы, прыходжу да пракананьня, што я праз тыя гады аставаўся не палавічным сіратой — без бацькі, але фактычна круглым сіратою... Як-жа гэта сталася?

Трэба заўважыць, што, як бацька мой паміраў, дык і матка была пры сьмерці, без памяці: ад яе таілі сьмерць бацькі, што нібыта яго вывезьлі ў шпіталь у Ашмяну. Толькі ад нас, дзяцей, матка даведалася пра сьмерць бацькі. Ды і пасьля матка ад пары-да-пары западала ў нейкую паважную немач — аж яе вывозілі ў шпіталь!.. Аднак здароўе урэшце устаткавалася і матка мусіла зарабляць на жыцьцё, як наймітка, на гаспадарскіх работах. Ня могучы забіраць з сабой абое сваіх сіротак, матка брала толькі старшую, Людвіню, а мяне пакідала на доўгі час у сям'і Савіцкіх, дзе матчына матчыха Анеля, а мая бабуля, улічала мяне ў сваю вялікую сям'ю. У значным пэрыядзе часу мая матка бывала на далёкіх працах — аж я, маючы 3—4 і 5-ты год, проста пра іх забыўся!

Такая доля сіраты-прыблуды, ведама, не зайздросная. Такім чынам я ўзрос у пазыцыі вандроўнага чалавека, што трывала ўсё маё жыцьцё, як аб гэтым будзеце далей чытаць. На маё шчасьце, мушу прызнацца, што я ня лішне быў пакрыўджаны, бо ў Савіцкіх мяне асабліва любіў адзін з маіх старшых (ад мяне 7 гадоў старшы) дзядзька Міхась Савіцкі, хлапец-весялун дый вельмі шустры, а нязвычайна сымпатычны. Ён мяне вучыў плаваць, але не даў рады з гэтым і пакінуў недавучкам. Дый ён мяне пасьля давёў у народнае вучылішча і неяк ня мог вучыцелю растлумачыць пра майго бацьку; а мяне страшэнны сьмех праймаў, як яны талкавалі з вучыцелям па расейску, бо я першы раз чуў гэтую цудачную мову. Неяк ня доўга пасьля таго дзядзька Міхась зусім зьнікнуў з майго гарызонту й паехаў у Амэрыку, не развітаўшыся са мною, — ажно я сам у 1960 годзе, буду-

чы ў Амэрыцы, пастараўся да Міхася дапытацца. Жыў ён далёка ад Бруклїну, ў Нью-Ёркскім штаце і быў ужо інвалідам і дзедам шасьці немалых унукаў. З вялікай радасьцяй вітаўся я з дзядзькам Міхасём, аднак (да чаго даводзіць недалужная старасьць?) я ня змог з сымпатычным Міхасём пагаманіць: ён толькі паглядаў на мяне і ўвесь час усьміхаўся, а ў гаворцы нешта лепетаў з невялічкім сэнсам... Не дай, Божа, мне такой старасьці, лепш ужо памерці — на Божую хвалу! — Ну, дзядзька Міхал незадоўга памёр, але мне ўдалося дапытацца да аднаго з ягоных унукаў, які быў клерыкам у законе: з гэтым я згаварыўся па француску: ён аказаўся вельмі сымпатычны, на падабенства свайго дзеда з маладых ягоных гадоў.

Яшчэ я падружыўся з унукам майго найстаршага дзядзькі Антона, Уладыславам Тармасэвічам (гальшанцом) па сваім бацьку. Гэты ўжо інжынер Уладыслаў Тармасэвіч напэўна быў-бы маім найлепшым прыяцелям, каб мы мелі супольную якую-колечы мову, але ён гаварыў толькі па-ангельску і па гішпанску, а я... Як той «цуд» аднаго разу, што «дзед гаварыў да абразу й абраз да яго — ні слова: — такая ўся размова!..»

Да тых ружовых успамінаў пра маё круглае сіроцтва скажу, для цікавасьці: было такое прыгожае лета, што мяне забываліся раніцай разбудзіць: уся сям'я вельмі сьпяшалася на работу ў поле. Праца, ведама, была ў гарачую пару смаглая і пільная, а я, пакінены, адзін, спаў доўга, колькі хапала духу. Ну, ўстаўшы, я аглядаўся па хаце ня доўга і выбегаў да іншых дзяцей гуляць. Так праходзіў цэлы дзень: добра помню, што дзень чамусьці цягнуўся вельмі доўга і мне было млосна. Дзеці зьмяняліся, але ня меў да каго прыгарнуцца да самага вечара. Тады валачыўся да рэчкі і пляскаўся ў вадзе — аж ужо вечарам мяне знайходзілі і прыводзілі дамоў. О, добра помніцца, як пасьля бедавалі дзядзькі і цёткі, што «дзіця аставалася цэлы дзень без пацераў!..» Іншыя патрэбы «дзіцяці» ня былі вельмі ўзятыя пад увагу.

Не магу скаржыцца, што такое дзіва бывала штодзённа, але і ня так рэдка. Толькі дзіўна, што гэтае «дзіця» ня мела розуму ў каго папрасіць хоць кусок хлеба; чамусьці ў «дзіцяці» была праціўная натура: нічога ня шукаў на месцы, ані улез куды ў шкоду, але неяк трываў сам з сабой... Дый такое нездатнае дзіця і гадавалася далей: у школе, чаго не зразумеў, не патрапіў спытацца ў іншых і няўмекай абыходзіўся бяз чужой помачы, нават і пасьля ў духоўнай сэмінарыі. Цяпер толькі разумею, што мусіць таму, матка агледзілася і зьмеркавала, што хлапец запушчаны й не расьце, дык трэба нешта перамяніць. Тады знайшла хату ў добрых людзей на Барунскай вуліцы: там далі на нейкіх варунках асобны куток з адным аконцам, дзе мы зажылі па панску. Ужо матка магла нас дваіх пакідаць у хаце: мяне пад апекай Людвіні, якая была вострай настаўніцай, якой я ня мог ня слухаць, бо яшчэ яна была дужэйшая — аж мне прышлося бараніцца зубамі: «Мама, Юзюк кусаецца!..»

*

Мушу даць з пабыўкі ў Савіцкіх адзін інцыдэнт надта характэрны. Цётка Ядвіга была нянькай маленькага Франачкі, майго дзядзькі, які ляжаў у калысцы. А да Ядзі прыходзіла ў госьці суседка, Мэлька, з якой вышывала Ядзя нейкія ласкуткі. Работа ў іх была паважная, бо мелі й каляровыя ніткі і якраз згубілі чырвоны клубочак! Як ні шукалі, не маглі знайсьці: на ложках і пад ложкамі і ўсюды... Ня было рады, — аж кажуць: «Чорт украў!» Я пачуў і вельмі спужаўся. А яны кажуць: «Трэба яму закруціць бараду, дык аддасьць...» — А я зацікавіўся, бо справа здавалася мне рызыкоўная: як яны яго зловяць і як будуць круціць бараду?.. Але і страх мяне браў, як я яго пабачу?.. А яны закрыліся ад мяне і нешта там круцілі, вярцелі — аж кажуць: «Гатова!» Трэба выйсьці ў сені і зачыніць хату». А што рабіць з дзіцяткам, бо яно сьпіць?» Мэлька казала: «Няхай сьпіць! Пакінем — яно нявіннае й яму нічога ня будзе!» — Ну, мы ўсе вышлі. А ў мяне — і дзіва, і цікавасьць, і страх: хачу яго ўбачыць дый страшэнна баюся! Але дзеўкі, прачакаўшы добрых пару мінутак, вярнуліся: давай разглядацца, аднак — нічога! Усё-ж рэзону не трацяць — шукаюць і... знайшлі! Аж кажуць: «Гэта ён усёж-тыкі адкінуў. Мы добра закруцілі...» — Так і дасюль я ня ведаю, што там круцілася? А шкода! —

*

За Барунскай вуліцай цягнуўся доўгі выган — аж да Гарадзішча. На ім гарнізон жаўнераў рабіў муштроўку, гімнастыку, бягі і стральбу. Адразу, як падымаліся з рынку на ўзгор'е, пачыналі біць у барабаны. Гэта нам, хлапчуком, давала вялікую радасьць: я ня пытаўся пазваленьня ў Людвіні й адразу прылучыўся да другога «маршу», — да грамады хлапцоў, якія зараз і сядалі да жаўнераў-барабаншчыкаў. Далей нас ня пускалі, але нам было добра й вясёла тут пры барабаннай музыцы!.. Каля 1896 году жаўнераў забралі з казармаў, што былі ў кляштары пры касьцеле і з Гальшанаў.

(Працяг будзе)

# Ражанцовыя думкі

Хрыстос сказаў пра сябе: «Я ёсьць дарога, праўда і жыцьцё». *Дарогай* ты ідзеш, *праўдай* кіруешся і даходзіш *да жыцьця.*

Але як жыць і як ісьці дарогай праз жыцьцё — ад дачаснага да вечнага? Як праўдай упівацца і ёй карміцца? Як для праўды цярпець і за яе змагацца? І як уміраць за праўду і як увайсьці ў неба? Як славіць Бога і як жыць з Маткай Божай, Марыяй на векі, — гэта ўсё нам паказвае Ражанец!

А найважней тое, каб даплысьці да порту збаўленьня — скора і бяз ніякага блуканьня. Дык гэта можна атрымаць добра адмаўляючы Ражанец, добра яго прыняўшы — прыняўшы ўсім серцам!

*

(66). Ражанец — гэта вялікае сьвятое слова, гэта — вялікае сьвятое аружжа і вялікая сьвятае справа. Кожны Ражанец добра адмоўлены ёсьць вялікай сьвятой перамогай, што трывае і будзе трываць на векі! Ражанец мусіць панаваць ува ўсім жыцьці духовым чалавека. Такое ягонае назначэньне і такая воля неба. Хто галосіць хвалу Ражанца, той мае *да гэтага* спэцыяльныя ласкі. Ражанец мусіць мець апосталаў толькі да гэтага празначаных. І Ражанец фармуе вялікія характары. Ражанец дае таксама сапраўднае рэальнае злучэньне ўсіх людзей, якія яго адмаўляюць, хоць яны і не знаёмыя дый ня ведаюць аб гэтым.

Калі маеш веру ў моц Ражанца, атрымаеш ягоную моц.

*

Ёсьць адзін спосаб адмаўляць Ражанец — гэта — *прыглядацца,* якая Божая моц скрытая ў гэтай таямніцы.

А моц Божая ў II-ой частцы Ражанца — гэта ўніжэньне. Божая моц у Ражанцы дае чалавеку *супакой!* А супакой ёсьць дарам Хрыстовым, але яго трэба шукаць, дастаць яго і трымацца, дый разьдзяляць між другімі. Так усё прыходзіць праз Ражанец. Калі гаворыш навуку, дык трэба навязваць да аднэй з таямніцаў Ражанца. Так Ражанец паплыве як вялікая рэчка...

## ДУМКІ З КНІЖАК

Кажная ЖАНЧЫНА ня можа стацца нічым лепшым як добрай маткай і нічым горшым як благой маткай.

**Зігрыд Ундзэт.**

ЗЬМЕСТ:



Druck: „Logos" GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14